PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (2036) ГОД XL БЕЛАСТОК 21 МАЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## Дваццацігоддзе



*Спявачкі з Меляшкоў і Гарадка.*

Уся бяда Меляшкоў у тым, што вёска старэе. І не сказаць, каб хаты валіліся, ці платы. Старэюць тут людзі і менавіта гэта найбольш відаць голым вокам.

— Усе засталіся тут такія, як мы, — кажуць мне спявачкі з меляшкоўскага калектыву, — пераважна каля шасцідзесяткі. Наймалодшаму гаспадару Віктару Лотышу і то ўжо сорак чатыры. З пяцьдзесят першага ён. Гэта наш солтыс! А ўся моладзь сядзіць у горадзе.

Нічога, што спявачкам ужо шэсцьдзесят і што тры ночы запар яны не спалі, так рыхтаваліся да свайго дваццацігоддзя. Як прыбраліся ў бель і чырваньды выйшлі на сцэну, расцвілі, быццам вішанькі. І не заўважаеш нават, што ў калектыве засталіся толькі тры немаладыя жанчыны: **Валянціна Дарашкевіч, Ніна Лавіцкая і Галена Дарашкевіч.** Спяваюць моцна і зладжана тры песні: „Я ў сярэду радзілася", „Ці я ў мужа не жана" і „Хлопцы-рыбалоўцы".

— Ай-яй-яй, мы ж восем песень падрыхтавалі, — скардзяцца, — а нам сказалі спяваць толькі тры.

— Ну, нічога, суцяшаю іх, так, бадай, трэба, каб не юбіляр спяваў, а юбіляру спявалі...

Юбілей дваццацігоддзя засмуціў ім лёс. Якраз цяжка захварэў муж адной са спявачак, Ніны Лавіцкай, ды ляжыць да сёння непрытомны ў бальніцы. Кепска з ім, і ва ўсіх трох жанчын на душы кошкі скрабуць. Зжыліся бабы на працягу стольких гадоў спявання! Але нават цётка Ніна віду сваёй бяды не падае, і ніхто не пазнаў бы па ёй, што дзесьці ў яе сэрцы, калі пасеўшы, бабы спяваюць пра тое, як „майстравалі" яны з мужам сынка Гаўрылу...

Юбілей дваццацігоддзя калектыву з Меляшкоў спявачкі вырашылі наладзіць 6 мая 1995 года ў вясковай святліцы, а не ў Гарадку, як зычліва раіла гміна, хочучы ўзяць на сябе большую частку ўсіх клопатаў. Не, мы самі і ў сваёй вёсцы, цвёрда сказалі спявачкі. Ну, не маглі яны, зразумейце, кінуць сваіх хворых сяброўак, якія хоць так-сяк, але ў сваю святліцу прыйсці б змаглі, а ў Гарадок ужо б не паехалі.

Ну, і ні госці, ні гаспадары не пашкадавалі. Даўно ўжо не бачыла я такой сардэчнай афіцыйнай урачыстасці, хаця былі і амаль „пратакулярныя" зычанні — ад дырэктара Аддзела культуры Ваяводскай управы Эўгеніюша Біль-Ярузэльскага, якія перадала Малгажата Шышка, зычанні ад дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казіміра Дэркоўскага і яго намесніцы Барбары Пахольскай, ад старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янкі Сычэўскага і сакратара Валянціны Ласкевіч, ад войта Гарадоцкай гміны Яўгена Семенюка, ад старшыні гміннай камісіі культуры Аляксандра Карпюка, ад Лёніка Тарасэвіча, Сцяпана Копы, жанчын з гарадоцкага калектыву. Былі ў гэтых зычаннях непаўторныя моманты, плывучыя з самай глыбіні сэрца. Дзякуй вам за песні, якія, дорачы сабе, вы заадно дарылі і нам, гаварыў Алесь Карпюк, а Лёнік падараваў жанчынам парачку — пеўніка і курачку, але надта дзіўнай пароды: нібы пер'е, нібы ангора і галоўкі незвычайныя — скуль іх толькі Лёнік і ўзяў!



*Іван Шыкуць, Раман Дзярманскі і Уладзімір Дарашкевіч.*



*Меляшкоўская публіка.*

*Працяг на стар. 3*

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Пра пяцідзесятую гадавіну капітуляцыі гітлераўскай імперыі гаварылася ў сродках масавай інфармацыі Польшчы і Беларусі ўжо некалькі месяцаў. Не было аднак дыскусіі пра падзеі, якія мелі месца ў Еўропе паўстагоддзя таму назад, а толькі ў які спосаб павінны яны адзначацца галоўнымі акцёрамі сучаснай палітычнай сцэны. Асабліва вясёлы спектакль мела польская публіка, а некаторыя грамадзяне ўжо нават патрацілі арыентацыю ці 8 мая (па новаму стылю) святкавалі „Дзень Перамогі" ці „Дзень Паражэння". 50 гадоў школа, літаратура, фільм вучылі, што была гэта перамога, сёння палітыкі заявілі, што пачалася тады толькі савецкая акупацыя. Зусім невядома чым яшчэ гэты дзень будзе аб'яўлены праз 5 ці 10 гадоў.

У Беларусі няма такіх сумненняў. Усе згодна адзначаюць перамогу над фашызмам. Кожны год 9 мая нават апазіцыя Беларускага народнага фронту імкнецца паклaсці кветкі да помніка на Плошчы Перамогі, хаця савецкая міліцыя розная назначэння старaецца перашкаджаць ім у гэтым як толькі можа. Беларускія камуністы чамусьці гэты дзень прызналі толькі сваім святам, так як бы ўсе салдаты, якія змагаліся на франтах ІІ сусветнай вайны, былі членамі КПСС або прынамсі камсамола. У гэтым годзе ўрады Беларусі і Расіі назначылі 9 мая найважнейшым дзяржаўным святам. Так у сапраўднасці Дзень Перамогі павінны адзначаць толькі амерыканцы, якія амаль без уласных страт запанавалі над паловай свету. Англічанам і французам канец ІІ сусветнай вайны стаў пачаткам развалу іх імперыяў.

Цяжка таксама назваць перамогай звыш 26 мільёнаў загінуўшых грамадзян Савецкага Саюза. Гэта так, як бы загінуў сярэдняй велічыні еўрапейскі народ. Ніхто пакуль што не судзіў вінаватых, якія давялі да такой разні сваё грамадства. Чырвоная Армія прайграла вайну пакуль яна яшчэ пачалася. У 1938 г. партыйная паліцыя знішчыла амаль усіх маршалаў, генералаў, дзесяткі тысяч афіцэраў. Нічога затым дзіўнага, што ў першых днях вайны 4 мільёны салдат трапілі ў нямецкі палон. Большасць іх загінула галоднай смерцю. Трэба таксама памятаць, што мільёны ахвяр сталінскіх рэпрэсій і галодных калгаснікаў трошку інакш глядзелі ў 1941 г. на нямецкую армію, чым паказваюць гэта савецкія фільмы. Толькі зверствы і дзікасць акупантаў адмянілі адносіны асноўнай масы грамадства да немцаў.

За што змагаліся савецкія салдаты на тэрыторыі Польшчы, Венгрыі, Славакіі, Аўстрыі? Сёння нават іх косці павыкідалі з зямлі, якую вызвалілі. За што пасля вайны так цярпеў той жа савецкі народ? Чым коштам стваралася імперыя, якой баяўся ўвесь свет? Гэта ж з плёну працы савецкіх грамадзян фінансавалася „інтэрнацыяналістычная" дапамога для рэвалюцыянераў Кубы, Гватэмалы, Мазамбіка, Эфіопіі, Камбоджы, Анголы, Афганістана. Нават не ведаў беларускі рабочы ці калгаснік, што палову яго заработнай платы аддавалі на гарматы для нейкага таварыша, які змагаўся ў афрыканскіх джунглях з такім самым бандытам, толькі ўзброеным за амерыканскія грошы. У тэлебачанні, па радыё, у друку тлумачылі людзям, што „дзякуючы інтэрнацыяналістычнай падтрымцы савецкага народа пашыраецца лагер міру і прагрэсу".

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Miesiąc przed wyborami do parlamentu białoruskiego pobito posłów opozycji. Prezydent Łukaszenko zabiega o władzę absolutną i tworzy policyjny reżim. O zajściach w parlamencie Białorusini dowiedzieli się z Radia Swaboda i polskiej telewizji odbieranej na zachodzie kraju. Miejscowe środki przekazu, cenzurowane i absolutnie podporządkowane Łukaszence, milczały jak za sowieckich czasów. Opozycja jeszcze przed wyborami krytykowała Aleksandra Łukaszenkę, kierownika sowchozu, który mówił wyborcom to, co chcieli usłyszeć. Obiecywał wszystkim telewizory, lodówki, zrekompensowanie wkładów oszczędnościowych, uruchomienie pracujących na ćwierć gwizdka fabryk, zahamowanie inflacji, walkę z korupcją i szybki dobrobyt. Ludzie zmęczeni kryzysem gospodarczym i drożyzną czekali na cud. Głosowali więc na cudotwórcę. Prezydent obiecał, że Moskwa pomoże. Nie chciał, nie potrafił, nawet nie próbował przeprowadzić zmian. Reformy godziły w jego elektorat. Ludzi, którzy żądają wszystkiego za darmo, jak kiedyś: skierowań na wczasy, mieszkań, taniego chleba, i byle jakiej kiełbasy. Prosta kalkulacja wskazywała, że reformy rynkowe zniechęcą do działań prezydenta znaczną część elektoratu. Zaniechano więc reform. Co więcej, prywatyzacja jest ostro i niewybrednie krytykowana jako złodziejska i nabijająca fortuny oszustom. A Białorusini milczą. Oleg Trusow — lider Białoruskiej Socjaldemokratycznej Hramady mówi, że Białorusini to specyficzny naród, milczą, żeby przeżyć. Historia nauczyła ich, że ten, kto mówił — leży w Kuropatach.*
*(Polityka, nr 17)*

* * *

*Nie ma mowy o żadnym dyskryminowaniu języka białoruskiego na Białorusi. Moja propozycja przeprowadzenia referendum to ratunek dla języka białoruskiego, bo trzeba pozwolić, żeby naród sam określił w jakim języku chce się uczyć. Dlaczego Polak nie ma uczyć dzieci w takim języku, w jakim chce: po polsku, po angielsku, po rosyjsku. Dlaczego wszyscy mają uczyć się po białorusku.*
*Jest narodowość białoruska, ale w ostatnich latach nasz naród tak mocno skonsolidował się z rosyjskim, że faktycznie trudno się zorientować kto jest Rosjaninem, a kto rosyjskojęzycznym Białorusinem. W mojej administracji dużo jest ludzi narodowości rosyjskiej oddanych niezawisłości narodowej i niezależności państwowej Białorusi,* — сказаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.
*(Gazeta Wyborcza, nr 101)*

З гэтага выказвання прэзідэнта відаць, што ўзровень медычных навук у Беларусі вельмі нізкі.

* * *

*Najwidoczniej eksperyment z powołaniem do życia narodu białoruskiego w suwerennym państwowym kształcie nie powiódł się. Białoruski prezydent staje na głowie, żeby swój niezawisły kraj zawiesić znowu u potężnej rosyjskiej piersi, skąd można wyssać poczucie mocy i pewności. Dla Polaków Łukaszenko rozganiający miński parlament pałami w celu przywrócenia rosyjskiego języka i państwowych znaków sowieckiej Białorusi, jest figurą dość przerażającą. I nie chodzi tu o brak demokratycznej elegancji, czy dyktatorskie zapędy przywódcy Białorusi. To są kwestie estetyczne. Idzie o to, że Imperium wraca pod polskie granice.*
*(Tydzień Polski — Dziennik Polski, nr 16, Londyn)*

* * *

*Śp. Andrzej Lussa został prezydentem miasta Białegostoku, miasta trudnego, miasta kontrastów, a nawet napięć. Miasta wspaniałych tradycji kresowych. Miasta żywej religijności. A równocześnie miasta, gdzie nawarstwiało się wiele śladów złej historii, złej przeszłości (...). Prezydent Lussa pamiętał również skąd się wziął Białystok, z jakich tradycji wyrasta, co zawdzięcza mu jego polska przeszłość, która przez miasto przechodziła. Zmarły prezydent rozwijał związki miasta z Wojskiem Polskim. Pragnął aby wojsko było w Białymstoku widoczne. To miałby być znak Rzeczypospolitej, w tym mieście, którym tyle razy próbowano kupczyć, któremu również ostatnio próbowano wmawiać, że silnym nurtem bije w nim obca tradycja,* — сказаў спадар капелан Войска Польскага генерал Славой Лешэк Глудзь падчас пахавання прэзідэнта горада Беластока Анджэя Люсы.
*(Gazeta Współczesna, nr 82)*

Слова генерала-капелана даюць адказ на пытанне, чаму ў Беластоку не можа быць беларускай філалогіі, беларускага цэнтра культуры ці навуковай установы.

* * *

*Przybyli na sesję Rady Miejskiej zwolennicy „Jedności” poturbowali radnych opozycyjnych klubów. Zarząd Regionu „Solidarność” przygotował bojówkę, która gotowa była użyć kijów baseballowych aby powstrzymać radnych opozycji. Straż Miejska i policja nie interweniowały.*
*(Kurier Poranny, nr 100)*

10 сакавіка 1994 г., калі салідарнікі напалі на журналістаў „Нівы”, з дапамогай ім з'явіўся нават ваяводскі камендант паліцыі пан Тадэвуш Сэрватка, інспектар Ян Кулеш і натоўп сяржантаў ды паручнікаў. На другі дзень Юзэф Мазалеўскі — лідэр беластоцкай „Салідарнасці” — на мітынгу на вуліцы Сураскай заявіў, што беларускія журналісты з „Нівы” мелі ў плане ліквідацыю прафсаюза. Таму менавіта тады і з'явіўся батальён паліцыі.

* * *

*Żyjemy w kraju, w którym wzbiera wielka fala chamstwa, ogarniając niemal wszystkie dziedziny życia, od polityki i środków masowego przekazu po klasy szkolne. Czy cham pojawił się w naszym życiu społecznym dopiero dziś? Otóż nie. Cham w literaturze polskiej od 1918 r. przybierał różne szaty, służył do uzasadnienia czasami sprzecznych racji. Wielbili go pisarze niepodległej Polski. Nurt powieściowy, odwołujący się przecież do „chrześcijańskich wartości”, aż kipi od chamskiej brutalności i nienawiści.*
*W latach dwudziestych, kiedy wygasła euforia niepodległościowa, zaczynała się ostra gra polityczna, pełna wszelkich obrzydliwości, nijak nie pasująca do romantycznych marzeń i legionowo-patriotycznej frazeologii. Na dobrą sprawę chamstwo ogarnęło wszystkie czynniki polityczne w kraju.*
*(Polityka, nr 17)*

Як бачым, гісторыя паўтараецца.

* * *

*Mogę zaświadczyć, że polska wieś to całkiem ładna okolica. Skąd wiem? Co tu dużo kryć, z pochodzenia. A i też jeździło się rowerem po tych polach zbożem złotym porośniętych, oj jeździło. Czasem najechało się na leżącego gdzieś na ścieżce, przemęczonego pracą w pegeerze, chłopa. A życie miał ciężkie. Jak nie musiał sprawdzić z sąsiadem czy samogon dobrze przerobił, to akurat piwo dowieźli do sklepu. I tak cały czas na okrągło, i ręce zajęte i gardło,* — піша Мажэна Домарос, аўтарка славутых „Erotycznych imunitetów”.
*(Szpilki, nr 16)*




**50 гадавіна** заканчэння II сусветнай вайны шырока адзначалася ў нашым рэгіёне. Беластоцкія ўрачыстасці заінаўгуравала літургія і паніхіда ў Свята-Мікалаеўскім саборы. У прысутнасці прадстаўнікоў улад, войска і паліцыі набажэнства ў гонар загінуўшых на франтах II сусветнай вайны салдат узначаліў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Падчас урачыстасці ўдзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна **Уладзімір Аўгустынчык** быў узнагароджаны Ордэнам Св. Марыі Магдаліны.

9 мая г.г., з нагоды заканчэння II сусветнай вайны **консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ігар Хадасевіч** усклаў вянкі і кветкі ў кватэры савецкіх салдат на Камунальных могілках. На беластоцкай некраполіі пакояцца астанкі 4 тысяч салдат Чырвонай Арміі. З кветкамі на салдацкія магілы прыйшлі таксама мясцовыя ветэраны — былыя савецкія салдаты і палітычныя вязні.

**У Мілейчыцах** адбылася ўрачыстасць ушанавання памяці загінуўшых у гады II сусветнай вайны. Прадстаўнікі ўлад гмін Мілейчыцы і Нурэц-Станцыя ў прысутнасці войска ды праваслаўнага і каталіцкага духавенства ўзлажылі кветкі да помніка і крыжа на мясцовым могільніку савецкіх салдат.

**Прэзідэнтам горада Беластока стаў Кшыштоф Юргель** з правай кааліцыі „Еднасць”. Быў ён выбраны толькі на чацвёртай нечарговай сесіі. У замен за стварэнне магчымасці такога выбару апазіцыйныя клубы радных атрымалі функцыі двух намеснікаў старшыні Рады і трох старшынь яе пастаянных камісій. У выніку перагавораў і галасаванняў намеснікамі старшыні Гарадской рады сталі **Кшыштоф Біль-Ярузэльскі** (клуб левых радных) і **Юзэф Клім** (клуб Уніі вольнасці). На сесіі быў пашыраны састаў Рэвізійнай камісіі з 6 да 9 чалавек. Да гэтай пары скадалі яе члены клуба „Еднасць”. Камісію папоўнілі: **Марэк Хайноўскі** (УВ), **Юзэф Малішэўскі** (клуб левых) і **Антон Міранові**ч (клуб праваслаўных).

**18 Мотастралковая брыгада ў Беластоку** атрымала сцяг. Ва ўрачыстасці, якая адбывалася перад палацам Браніцкіх, удзельнічаў, між іншым, шэф Бюро нацыянальнай бяспекі **Генрык Гарышэўскі**. Згодна з загадам міністра нацыянальнай абароны брыгада атрымала назву „Беластоцкай” і прысвоена ёй імя маршала Польшчы **Эдварда Рыдза-Сміглага**. Сцяг брыгады высвяцілі ардынарыі Войска Польскага: каталіцкі — біскуп **Славой Лешэк Глудзь** і праваслаўны — архіепіскап **Сава**. Урачыстасць закончыў парад вайсковых падраздзяленняў.

**Цэнтр праваслаўнай культуры і царкоўнай сацыяльнай дапамогі** паўстае ў Беластоку. 7 мая г.г. архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** пасвяціў краевугольны камень пад будову цэнтра, які будзе змяшчацца побач сядзібы епіскапства на вуліцы Лінярскага.

У касцёле св. Роха ў Беластоку адбыўся экуменічны канцэрт, у якім прыняў удзел **Маладзёжны праваслаўны хор** Свята-Мікалаеўскага прыхода ў Беластоку пад кіраўніцтвам **Аляксандра Лысынкевіча**.

**Сеймавая Камісія аховы натуральных рэсурсаў і лясніцтва патрабуе пабольшыць тэрыторыю Белавежскага нацыянальнага парку**, гарантаваць у дзяржаўным бюджэце сродкі на ажыццяўленне гэтай ідэі і датацыю для гмін, якія знаходзяцца на тэрыторыі парку. Свае прапановы члены гэтай камісіі перадалі Радзе Міністраў.

**Гайнаўскае прадпрыемства сухой перагонкі драўніны будзе прыватызавана.** Беластоцкі ваявода выступіў да міністра маёмасных пераўтварэнняў з прапановай занесці гэтае прадпрыемства ў спіс аб'ектаў прызначаных да хуткага продажу.




- > Беларуская песня ў выкананні дзіцячых калектываў.
- > На "Юрыя" ў Ласінцы.
- > Праблемы жыхароў вёскі Масева.
- > Парламенцкія выбары ў Беларусі.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Іншае святкаванне

Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў узначаліў Грамадскі камітэт па святкаванні 50-годдзя перамогі ў II сусветнай вайне, які правёў 9 мая альтэрнатыўныя мерапрыемствы. Напрыклад, для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і членаў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў быў арганізаваны ўрачысты вечар і святочны канцэрт. Камітэт прадоўжыў збор подпісаў у падтрымку акцыі Беларускага народнага фронту „Народ супраць вайны” з патрабаваннем дэнансаваць дагавор аб калектыўнай бяспецы. Кіраўнікі афіцыйных ветэранскіх арганізацый варожа сустрэлі ўзнікненне ў Менску альтэрнатыўнага камітэта па святкаванні перамогі і звярталіся ў Менскі гарадскі выканаўчы камітэт, а таксама да ўрада і прэзідэнта з патрабаваннем не дазваляць асобнага шэсця і альтэрнатыўных святкаванняў.

### Парванне традыцыі

Добрая традыцыя Брэсцкай вобласці і Бялападляшскага ваяводства існавала доўгія пасляваенныя гады. У майскія дні штогод праводзіўся міжнародны лёгкаатлетычны марафон „Перамога”. Яго траса праходзіла па дарогах Беларусі і Польшчы. І вось такая традыцыя на гэты раз парушана. Нягледзячы на доўгія ўгаворы, польскі бок не згадзіўся сёлета пускаць марафонцаў на сваю тэрыторыю. Тым не менш мерапрыемства адбылося, але толькі на тэрыторыі Беларусі.

### Сувалкі і Гродна

Дэлегацыя Сувальскага ваяводства на чале з ваяводам Цэзары Цеслюкоўскім наведала Гродна. Вынікам візіту стала падпісанне пагадненняў аб развіцці гаспадарчых і культурных сувязей паміж суседнімі рэгіёнамі дзвюх краін. Пагадненне прадугледжвае абмен інфармацыяй і вопытам у розных сферах эканомікі, а таксама ў рэалізацыі сумесных праектаў па развіцці транспарту і камунікацыі, напрыклад, будаўніцтва транзітнага газаправода Івацэвічы—Гродна—Калінінград.

### Перастараліся

Стражнікі выканання прэзідэнцкага ўказа аб роўных магчымасцях кандыдатаў у дэпутаты, г.зн. аб заказе вядзення перадвыбарчай агітацыі ў цэнтральных сродках масавай інфармацыі, сваю дзейнасць давялі да грані абсурду. Напрыклад, выкасавалі кадры з прафесарам Аляксеем Пяткевічам, які балатуецца ў Болдзінскай акрузе горада Гродна, з тэлеперадачы пра пісьменніка Аляксея Карпюка, хаця прафесар не агітаваў за сябе, а проста выконваў вядучую ролю ў перадачы. У Цэнтральнай выбарчай камісіі яму паведамілі, што па закону ён меў права ўдзельнічаць у перадачы, але тым часам перадача выйшла ўжо ў эфір.

### Святкаванне Грунвальда

Стварыўся Грамадскі арганізацыйны камітэт святкавання 585 гадавіны перамогі пад Грунвальдам. У аргкамітэт увайшлі прадстаўнікі шэрагу грамадскіх і палітычных арганізацый, між іншым, БНФ, ЗБС „Бацькаўшчына”, Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, Саюза палякаў. Аргкамітэт выступіў са зваротам да грамадзян Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, у якім гаворыцца: „Улічваючы, што слаўная перамога нашых народаў пад Грунвальдам над крыжаносцамі дасягнута сумеснымі намаганнямі нашых брацкіх народаў, звяртаемся да грамадскасці суседніх краін з заклікам аб'яднаць свае намаганні для дастойнага ўшанавання вялікай даты”.

### КДБ адкрывае свае архівы

Незвычайная сустрэча адбылася ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі. Кіраўнік расейскага Дваранскага сходу князь Андрэй Кірылавіч Галіцын сустрэўся з намеснікам КДБ Іванам Юркіным. Ён папрасіў дазволу азнаёміцца з матэрыяламі справы стрыечнага брата бацькі, Дзмітрыя Галіцына, які ў 1924 годзе быў асуджаны да 10 гадоў турэмнага зняволення па абвінавачанні ў арганізацыі контррэвалюцыйнай дзейнасці. КДБ прыняў рашэнне перадаць дакументы аб лёсе Дзмітрыя Галіцына княжацкай сям'і.

### Жэст салідарнасці

5 мая г.г. 55 са 140 дэпутатаў Сейма Літвы прынялі заяву наконт парушэння недатыкальнасці парламентарыяў Вярхоўнага Савета, якая датычыць гвалтоўнага выдварэння дэпутатаў ад апазіцыі з залы пасяджэнняў ноччу з 11 на 12 красавіка. Літоўскія парламентарыі асудзілі парушэнне недатыкальнасці беларускіх калег і выказалі спадзяванне, што вінаватыя парушэнняў будуць пакараны.

### Італьянцы пабудуюць аўтастраду

Італьянская фірма „Тадзіні” выйграла першы тэндэр праекта мадэрнізацыі трасы Брэст—Менск—мяжа Расіі, якая з'яўляецца часткай трансеўрапейскай магістралі. Крэдыт на гэты праект выдзяляе Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Яго арыенціровачны кошт — 110 млн. дол., але ЕБРР выплаціць толькі частку гэтай сумы. Астатнюю частку павінен выдзеліць беларускі ўрад.

### Аматары металалому

Магутны сілай выбух нечакана прагрымеў у вёсцы Дуброліш Кармянскага раёна. Аказалася, што невядомыя злачынцы ўзарвалі электрычны трансфарматар і пакінулі без электраэнергіі спажыўцоў. Ва ўзарваным трансфарматары нехта шукаў дэфіцытныя каляровыя металы.

# Не будзе нас?..

— Я чула, што маюць адсюль людзей высяляць, з гэтых прыпушчанскіх вёсак? — звяртаюся да дзвюх пенсіянерак, што ў вёсцы Баравыя сядзяць на лавачцы з малым хлопчыкам.

— Мне мой знаёмы з Масева расказваў, што па вёсках ездзіць нейкая камісія, пэўна, з **Варшавы**. Бытта тут маюць *рэзерват* нейкі рабіць. Усё *залесіць* хочуць, — кажа цётка Верка. — А то ўсё тут — адны аблагі. Усе на рэнты пайшлі, няма каму гаспадарыць, то ўсё прэч палiквідуюць.

— Ты, Верко, а што з людзьмі будзе?! — цётка Зінка з неспакоем прыхінае да сябе малога.

— Грошай жа дадуць за ўсё. А ты з імі рабі, што хочаш. Хочаш — купляй гаспадарку, хочаш — будуйся ў іншай вёсцы, хочаш — ідзі ў *блёк*, хочаш — прапі...

— О, грошы, грошы! Гаворыць народ даўно: прадалі нас разам з ботамі. Адзін святы чалавек прадказваў: будзе ў Польшчы такі князь, такая ўлада, што свой край аддасць чужым разам з людзьмі! Ну, што такое — прыватызацыя? Багаты можа купіць усё, нават такую пушчу, і зрабіць з гэтым, што хоча.

— Не-не! Гэта ж той запаведнік не будзе прыватным лесам, то ж ён агульнае дабро!

— Што ты кажаш, Верка! Уся Белавежа ўжо не наша! Я ў сваёй вёсцы на сваім новай хаты не магу паставіць, бытта зямля не мая, не бацькоўская, а чужая! А што тут казаць пра пушчу! Яна ж людскога голасу не мае, біцца не пойдзе.

— Ну, і пушча ж наша.

— Ай, што тут наша! Фабрыкі, заводы параспрадавалі за бясцэнак! А лес? Лес слова не скажа. **Яны** зробяць, што захочуць, так і з ім, як і з намі. Ну, а што тая камісія дае, чаго хоча?

— Дадуць, кажуць людзі, грошы, а ты высяляйся, куды хочаш. Так кажуць. Во бачыш, як Нарву разлівалі, то людзям у Бандарах блёкі далі, то Новую Луку людзі пастаўілі, хаты як палацы, адна прыгажосць. Якія ў людзей кватэры, якія вілы! Тады былі ўсе шкадавалі сваіх хатаў, а цяпер паглядзі, як жывуць людзі! Ї ў Беластоку шмат хто жыве. Плацілі за ўсё, нават за кожны кусцік трускалак. Яны напусцілі вады ў *залеў*, то карысць маюць, прыязджаюць адпачываць. Ну а ў пушчы будуць разводзіць звярыну. Ї будзе жыць яна па-свойму.

— Праўда, праўда, шмат яе выбілі, і хварэе многа звяроў, і дрэвы нездаровыя. Штосьці з гэтым рабіць трэба. Свет не мае чым дыхаць. А ты, Верко, як думаеш, хто гэтым будзе карыстацца? Той, хто мае! Глянь, хто абсеў *залеў*? Той, хто мае грош. Купляюць зямлю. Чужых панаехала, пануюць. А нашы вёскі, што хіба будзе як па дзвесце гадоў тут сядзяць, развядуць па свеце, як наш народ рассеялі ў першую вайну. Самы паўцякаем, у страху. Усё пазарастае. Масева, Баб'я-Гара, Пасекі, Баравыя, Медзвядзі, Альхоўка...

— А што ж — усе гэтыя вёскі — *да нічэго* — і хаты занядбаныя, і палеткі. Ї ў іншых месцах — ля пад Ялоўкай: пустыя хаты, дзе-нідзе па адной бабе ці дзеду. Тых рэштак нават не трэба будзе высяляць, самі паціху паўміраюць, ано трошкі счакаць трэба. Якая тут радасць сядзець, век дажываць у гэтай глушы...

— А хто малады застаўся — то ці ён задаволены? Такім жыццём? *Навозы*, аплаты, падаткі... А зямля ў нас неўрадлівая, усё пясок ды пясок. Кожны ўцёк бы ў горад. Калі кватэры купяць...

— То што, зубы на паліцу пакладуць? Скуль для іх працу ў горадзе знойдзеш? Ї кватэр колькі трэба набудаваць!

— Колькі, колькі! А колькі ж тых вёсак? У адзін *блёк* усіх паўпіхаць можна, і яшчэ месца будзе.

— Задушыцца можна ў тым смуродзе, у гарадскім, мы народ непрывыклы. Але ж прыйдзецца ўцякаць згэтуль, бо невядома, да чаго яшчэ дайсці можа. Ну, калі б усе заўпарціліся, і не хацелі нікуды ісці, трымаліся свайго, зямлі, працы... Сілай жа ж не павыкідалі б згэтуль людзей?

— А што ты кажаш, Верко! То ж тут людзі ўжо не маюць сілы працаваць! Калі чалавеку пад семдзесят, то дзе ў яго сіла будзе! Работа ўсю высмактала, выжэрла. А хто тут будзе трымацца зямлі! Пярэкідам пабягуць у тыя *блёкі*! Ї маладыя, і старыя! Якія тут у нас *мажлівасці*, ты, Верко, падумай. У нас усіх. У мяне з табою хоць свае пенсіі ёсць. Усё адно, дзе грошы будзем выдаваць, абы здароўе, абы па-чалавечаму дажыць да чалавечае смерці.

— Паглядзі, а каліс за кавалак зямлі, нават за мяжу біліся, за адну скібу! Нават у нашай вёсцы, Кастусь з Андрэем, мала не пазабіваліся за разору, і на пакаленні нянавісць пайшла. А цяпер — бяры, колькі хочаш, тае зямлі, хоць задушыся! Кожны прадасць бацькоўскае па кавалку, бо і пражыць няма за што. Вазьмі ты тое свінчо ўгадуй — колькі бульбы яму трэба, мяшанкі, збожжа... А бульба цяпер не танней за яблычка, за банан! А колькі работы пры ўсім гэтым, ды хто яе лічыць. Няма грошай, няма сэнсу, няма... дзяўчат. У такой адной Альхоўцы — сорак кавалераў, ано выбіраць, вядома, не нам з табою. Ї файныя ўсе хлопцы — *прошэ відзець*. Маглі б жыць і ў мястэчку, і ў горадзе, але бацькі апісалі на іх гаспадаркі. А якая дзяўчына пойдзе *на ролю*? Ну то і дзяцей няма, дзе-нідзе разынкі, як гэты дзецюк. А есці жа трэба жывому чалавеку, купіць за што мецъ. А хто табе тое мяса выгадуе, хто хлеба нажне, каб горад выкарміць, і каб сабе хапіла?

— Ты, не такія *мондрыя*, як мы з табою, ламаюць над гэтым галаву. За наш час хіба нічога не выдумаем, як ратавацца. Не будзе нас, то хоць хай лес будзе. Бачыла, якія дубы ў нас? Яны хіба яцвягаў яшчэ памятаюць. Што век чалавечы...

Запісала
**МІРА ЛУКША**
фота з архіва



# ВЫБРАЛІ ПРЭЗІДЭНТА

8 мая 1995 г. быў выбраны новы прэзідэнт горада Беластока. Стаў ім кандыдат нацыянал-хрысціянскай кааліцыі „Еднасць" Кшыштоф Юргель. Пасля смерці папярэдняга прэзідэнта Анджэя Пётра Люсы пачаліся палітычныя гульні ў беластоцкім „гарсавеце", якія часам набывалі драматычны характар. 2 мая дайшло нават да мардабою, калі райцы ад Уніі вольнасці і Саюза левых дэмакратаў прабавалі выйсці з залы нарадаў, каб не дапусціць да выбару новага прэзідэнта. Гэты палітычны спектакль, абмежаваны да тэрыторыі Беластоцкай гміны, быў добрым урокам тутэйшай дэмакратыі.

„Еднасць", захапіўшы ўсе мяккія крэслы ў Радзе і Управе горада і маючы больш паловы райцаў, магла доўга ігнараваць апазіцыю. Ї толькі калі з'явілася патрэба выбраць новага прэзідэнта, кааліцыя вымушана была пачынаць дыялог з апазіцыяй. Згодна з законам для назначэння Радай новага шэфа лакальнай адміністрацыі павінны быць прысутныя 67 працэнтаў райцаў. Найбольш сумнае аднак было тое, што тэмай дыскусіі паміж беластоцкімі палітыкамі не сталі справы горада, а толькі лік крэслаў, з якіх мае сысці кіруючая кааліцыя, каб магла ў іх сесці апазіцыя.

Пасля доўгіх перагавораў „бацькі горада" дайшлі да „consensusu". Апазіцыя з УВ і СЛД атрымала крэслы намеснікаў старшыні Рады і кіраванне нейкімі камісіямі. Далей усё пайшло нармальна. Прэзідэнта выбралі.

рэд.

# Добраахвотныя і актыўныя

У горадзе і ў гміне Кляшчэлі 15 сялэцкіх вёсак і 7 добраахвотных супрацьпажарных камандаў.

Наймацнейшай камандай з'яўляецца кляшчэлеўская. Існуе яна ўжо 70 гадоў. Зараз мае два спецыяльныя самаходы з матапомпамі і іншым супрацьпажарным абсталяваннем.

У вёсцы Дашы пажарнікі атрымалі больш самаход і трэба ім разбудаваць гараж. Каманда — адна з актыўнейшых. Можна верыць, што яны намер свой здзейсняць. Чырвоны „Стар" дастаўся ім па заслугах.

Адрадзілася супрацьпажарная каманда ў Дабрывадзе. Прыйшлі ў яе новыя актыўныя людзі, якія пачалі ўжо пабудову гаража для супрацьпажарнага абсталявання. Прыдаўся б ім невялікі самаход, хаця б „Жук".

У Палічнай неабходна абгарадзіць супрацьпажарны басейн, а ў Саках пажарнікам-добраахвотнікам ужо зараз патрэбная новая спецвопратка.

(яц)

# Дваццацігоддзе

*Працяг са стар. 1*

Сардэчнасцю і цяплом веяла з боку сабранай вясковай публікі. Старыя шчыльна запоўнілі седзячыя месцы, маладзейшыя стаялі ў дзвярах, пахаджвалі па панадворку, пакурвалі.

Вось трое мужчын. Двое з іх прыехалі здалёк, а Іван Шыкуць — мясцовы. Ён светліцовы. Галена Шыкуць, яго жонка, таксама спявала ў меляшкоўскім калектыве больш дзесяці гадоў. То гэта таксама як бы і яе свята.

У святліцы ў Меляшках адбываюцца паказы, як пячы, варыць, выступае з канцэртамі калектыў з Гарадка. У часе канікул моладзь наладжвае тут дыскатэкі.

Раман Дзярманскі нарадзіўся ў Пяшчаніках, а жыве ад сорак шостага ў Варшаве. У Меляшках бывае штомесяц: жонка Тамара адсюль.

А вось Уладзімір Дарашкевіч апублікаваў быў свой верш у першым беластоцкім беларускім зборніку „Рунь". Тады яшчэ рабіў на Шлёнску. Кніжку гэту захоўвае як рэліквію. Сёння жыве ў Беластоку.

Тым часам распачаўся канцэрт і першы выступіў калектыў з Гарадка.

На змену гарадоцкім спявачкам выходзіць славуты ўжо ў нашым асяроддзі саліст Юрка Астапчук, сын гарадоцкага настаяцеля, з калектыву „Санет" ці, як кажуць, групы Астапчукоў. Ён даволі доўга бавіць сабраных сваім прыемным голасам, пасля на змену яму прыходзяць ізноў гарадоцкія і меляшкоўскія спявачкі, саліст Юры Налівайка.

Ад дзядзькі Івана Шыкуця вее смуткам. Шкада, што ў нас адны старыя засталіся, кажа. Але яшчэ-яшчэ, „дзенькі" некаторым....

Так сапраўды, для некаторых узрост не адыгрывае істотнай ролі. Малайцы, меляшкоўскія кабеткі!

Малайцы і гарадоцкія спявачкі, верныя памочніцы і апякункі меляшчанак! Ї дырэктар Дома культуры Тамара Бурачэўская, і войт Яўген Семянюк, і Лёнік Тарасэвіч, які не толькі быў адным з арганізатараў юбілею, але і выдаў да гэтай падзеі буклет „Спяваюць Меляшкі".

Лёнікава мама, якая таксама прыехала ў родныя Меляшкі на юбілей, спаглядае на яго з ціхім захапленнем.

— Але што ж, калі жаніцца не хоча, — дадае яна быццам у сваё апраўданне.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Дэмаграфічны максімум

Зараз Беласток гэта ўжо амаль 300-тысячны горад. Пад канец 1994 года пражывала тут 278 500 чалавек (у 1993 годзе — 276 045 асоб), у тым: 10 220 — ва ўзросце 0-2 гады, 16 172 — 3-6 гадоў, 38 155 — 7-14 гадоў, 14 180 — 15-17 гадоў, 168 850 — узрост прадукцыйны (мужчыны — 18-64 гады, жанчыны — 18-59 гадоў), 31 335 — узрост пазавытворчы.

Як прадбачваецца, лік насельніцтва ў Беластоку да канца гэтага года ўзрасце на 2,5 тысячы асоб. У 1995 годзе найбольшы горад у Беластоцкім ваяводстве будзе мець 281 тысячу жыхароў і пад канец 1997 года 286 тысяч асоб.

У мінулым годзе нарадзілася ў Беластоку 4,3 тысячы новых жыхароў і ў 1993 годзе — 5 377. Са статыстыкі вынікае, што сярод немаўлят больш было дзяўчынак. На 100 хлопчыкаў выпадае 110 дзяўчынак.

(яц)

 

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*Нашым чытачам прапануем успаміны Юстына Пракаповіча, які нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Кучкуны Стаўбцоўскага павета, а зараз жыве ў Беластоку. У іх аўтар раскажа пра жыццё заходнебеларускай вёскі ў даўнены час і ў перыяд ваеннага ліхацення.*

### Мой родны кут, мая Айчына

Вёска Кучкуны (цяпер Стаўбцоўскага раёна Менскай вобласці) знаходзіцца ў васьмі кіламетрах ад Стоўбцаў і распалажана яна ў вельмі маляўнічай мясціне. З трох бакоў — з поўначы, усходу і поўдня — акружаюць яе вялікія лясныя масівы. Да 1939 года лясы на ўсходнім і паўднёвым баках вёскі былі ў прыватным уладанні князя Радзівіла, а на поўначы знаходзіўся дзяржаўны лес, у якім у 1921—1938 гадах мой бацька служыў лесніком. На паўднёва-ўсходнім баку вёскі пралягае чыгуначны шлях Масква—Менск—Варшава, а на заходнім — пабудаваная ў 1947 годзе шаша Масква—Менск—Ваўкавыск да дзяржаўнай мяжы з Польшчай у Баброўніках.

У трохстах метрах за чыгункай да 1947 г. знаходзіўся гасцінец — стратэгічная дарога з Масквы ў Варшаву, пабудаваная па загаду царыцы Кацярыны II. У мінулым быў ён для жыхароў вёскі крыніцай розных няшчасцяў. Падчас перамяшчэнняў войскаў у ходзе войнаў ці паўстанняў жыхары вёскі былі абавязаны забяспечыць ваенныя фарміраванні кватэрамі, харчамі, падводамі і каньмі. Асабліва жудасныя карціны паўставалі ў маім уяўленні з апавяданняў старажылаў пра гнанне з Польшчы ў Сібір удзельнікаў студзеньскага паўстання 1863 года, сярод якіх траплялiся 8—15-гадовыя хлопцы.

У 1920 годзе ў 5 кіламетрах на паўночны-ўсход ад вёскі ўстаноўлена была дзяржаўная мяжа паміж Польшчаю і Савецкім Саюзам. Пралягала яна паміж лясоў і балот, што спрыяла нелегальным пераходам мясцовых жыхароў то ў адну, то ў другую дзяржаву з кантрабандысцкімі мэтамі. У 1921—1923 гадах граніцу перасякалі не толькі гандляры, але і ўсялякіх масцей злачынцы.

Да 1946 года вёску Кучкуны засялялі 48 сем'яў, у тым ліку тры сем'і польскай нацыянальнасці: Францішка Ямёлы і братоў Браніслава і Станіслава Руднікаў. Астатнія 45 сем'яў — гэта карэнныя беларусы праваслаўнага (37) і каталіцкага (8) веравызнанняў. Усе ў вёсцы жылі згодна, як адна сям'я.

Жыхары ў сваёй большасці займаліся земляробствам. На зямлі IV—V класаў вырошчвалі жыта, пшаніцу, авёс, ячмень, лён і бульбу. Некаторыя сяляне працавалі яшчэ на чыгунцы і наймаліся да лясных работ. Займаліся яны высечкай дрэў, іх транспартам у тартакі і сплавам драўніны па Нёмане ў Прусію.

У вёсцы доўга расказвалі пра здарэнне з мясцовым плытагонам Міхасём Драздом, які ў пачатку нашага стагоддзя сплаўляў дрэва аж у Каралевец. Плытагоны дзеля ашчаднасці часта вярталіся дамоў пехатою. Аднойчы Міхась Дрозд ішоў з двума сябрамі з суседніх Канкаловіч і Заямнага. Перасекшы пруска-расейскую мяжу каля Аўгустова, знайшлі яны ў лесе чамадан поўны царскіх рублёў. Паколькі ўсе звыш ста лічыць не ўмелі, грошы падзяліў ўручную — хто колькі зможа абняць пяддзю рукі. На гэтыя грошы плытагон з Канкаловіч купіў у Стоўбцах два пляцы і паставіў два мураваныя дамы. Яго сябра з Заямнага купіў дом у Менску і там пераехаў жыць. А Міхась Дрозд з Кучкуноў рашыў вярнуцца дахаты... салон-вагонам. Прыйшоўшы ў Баранавічы, з дапамогай чыгуначнага служачага наняў салон-вагон, усеўся ў ім і паехаў. Выправіўшы паравоз з адным вагонам з Баранавіч, дзяжурны загадаў патэлеграфаваць у Стоўбцы, што да іх едзе салон-вагон, якім падарожнічае Міхаіл. Прозвішча пасажыра, відаць, не паведамілі, бо начальнік стаўбцоўскай станцыі падумаў, што прыязджае да іх князь Міхаіл і вырашыў адпаведна прывітаць высокага госця. На вакзале сабраліся ўсе чыноўнікі, але моцна расчараваліся, калі з вагона выйшаў мужык у зрэбнай кашулі і лыкавых лапцях і, абмінуўшы іх, пайшоў у свае Кучкуны. Дрозд хутка разбазарыў свае грошы на п'янках. Бывала, што фанабэрыста закручваў у банкноты тытунь і так курыў. Знаходкай з нікім не падзяліўся, нават са сваёй жонкай. Памёр у нястачы ў 1924 годзе.

Вёску раздзяляла на паловы невялічкая рэчка Адцэдка, якая выцякала з лясной дрыгвы каля вёскі Адцэда. На ёй былі тры млыны: у Кучкунах (спалены ў 1946 г.), каля Яблынаўкі і ў Задвор'і. Каля Стоўбцаў Адцэдка ўлівалася ў Нёман. У пяцідзесятых гадах у лясным масіве паміж вёскамі Адцэда, Арцюхі, Сверынава і чыгуначнай станцыяй Коласава савецкія ўлады паставілі нейкія вайсковыя падземельныя збудаванні і, відаць, парушылі вадзяную сістэму у ваколіцы, бо Адцэдка, у якой вадзіліся рыбы і ракі, поўнасцю высахла. Няма вады, няма рэчкі, а ў тым месцы, дзе былі лугі і балоты, цяпер красуецца збожжа. У цэнтры асноўнай часткі вёскі рос магутны стары дуб, а насупраць, па другі бок рэчкі, знаходзілася т.зв. Зарэчча. Невядомае мне паходжанне назвы Кучкуны. Пра гэта не захаваліся нават легенды. У шасцідзесяці метрах ад векавога дуба былі знойдзены людскія косці. Гэта сведчыць, што частка вёскі стаіць на старажытным могільніку. У 1930 годзе Сымон Ярмаковіч капаў калодзеж на сваёй сядзібе і на глыбіні 1,5—2 метраў натрапіў на людскі чэрап, іншыя косці і збанок. Нечаканую знаходку закапаў ён назад, а калодзеж зрабіў у іншым месцы. Ягоныя суседзі — Іван Навіцкі, Уладзімір Трахольскі ды Іван Камар — таксама выкопвалі людскія косці на сваіх панадворках.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992 - 03 - 17.**

Усё мацнее прыкрае ўражанне, што нам, беларусам, яшчэ далёка да палітычнай нацыі, сфармавання ў сябе палітычнага класа. Палітыку ў нас робяць не тыя, хто павінен, а — літаратары, вучоныя, мастакі. Таму яна і такая інфантыльная, без іскры адэкватнага ёй таленту.

**1992 - 03 - 18.**

Не ўяўляю я сабе такую дзяржаву, якая не імкнулася б асіміляваць нацыянальныя меншасці. Уся праблема зводзіцца да таго, каб негвалтоўна. Гледзячы вачыма Варшавы на нас тут, дык найлепей, каб, акрамя Беларускага грамадска-культурнага таварыства, не было аніякіх новых арганізацыяў, а тым болей нацыянальных партыяў. Ідэнтычны лёс чакае палякаў у Рэспубліцы Беларусь.

Газета *Nowa Europa* — датаваная 17-ым — публікуе інтэрв'ю *Partia Ściany Wschodniej* (пра БДА).

**1992 - 03 - 21.**

Маладабеларусы, гэтае пакаленне ва ўзросце маіх сыноў, якое стварыла сучасны беларускі палітычны рух, выразна збаўляе сваю буйную дынамічнасць. Робіцца сямейным, родзіць дзяцей — для мяне як бы ўнукаў! — і заядла ўбіваецца ў дарослае жыццё. Вельмі няпроста, бо на яго — вартую стабільнасці — долю выпалі грамадскія ўсялякія перавароты, а яны непазбежна і моцна пагаршаюць быт. (...)

Людзі адыходзяць у прыватнасць, гасне грамадскае жыццё. Усё менш альтруізму. Як заззлаваў Лёнік на мяне ў Каляду: *Я не мазахіст, каб перажываць за іншых!..*

Калісь нехта тлумачыў мне — Генік? — канцэпцыю здаровага эгаізму, г.зн. гармоніі карысці адзінкі і інтарэсаў нацыі. Ахвярнасць — гэта анамалія. (...)

**1992 - 03 - 30.**

Таварыская сустрэча ў *Ніве* — прыехала Ніна Мацяш. Гэтая паэтка на інвалідным вазку на рэдкасць бяскомплексна пераносіць сваё калецтва, высокага класа з яе чалавек (стварае такую атмасферу, што таго вазка і не прыкмячаецца!).

**1992 - 04 - 12.**

Палітыку не павінна рабіць галота, бо яе можна лёгка падкупіць. Не губляю надзеі, што гэтая праўда не будзе так цалкам датычыць малабеларусаў... А пакуль што ў іх інтэлігентна ў галовах, але пуста ў кішэнях. Ідзе дзікі, першабытны, капіталізм, у якім датацыі даюць не на альтруізм, а найахвотней на дыверсію...

У сённяшнім тэлевізійным інтэрв'ю — Мацярэвіч, міністр унутраных справаў РП, сказаў некалькі важных і нам рэчаў: разведка ды контрразведка накіраваны галоўным чынам на ўсход, на новыя дзяржавы (разумей: на Беларусь), а дзяржаўная мяжа на гэтым участку зробіцца шчыльнейшай.

Ужо Лёнік звяртаў маю ўвагу на свежы факт пашырэння прыгранічнай паласы з кіламетра-двух да дваццаці пяці недзе (напр., ад крынкаўскіх палеткаў аж да Сакалды). У гэтай паласе апынулася большая частка беларускай этнічнай тэрыторыі (не кажучы пра літоўскую на Сувальшчыне).

Публікую ў *Ніве* я свае дзённікі і час ад часу адчуваю, што хлопцы як бы насцярожваюцца ад іх да мяне... Каб не запісаў чаго? Сялянскі страх. Горш: драма вясковай душы ў горадзе.

**1992 - 04 - 16.**

(...) Наш праваслаўны пасол Яўген Чыквін, нябога, ужо прэзентуецца публічна як беларускі патрыёт (правільныя моўна выступленні піша яму Мікола Гайдук). Успомнілася: гэты палітычны ... прыходзіў мінулым летам да мяне і да Яна Чыквіна з нізкай просьбаю — не кандыдаваць у Сейм. (...)

**1992 - 05 - 01.**

*Смерць вяза* — няблага ўданае. Калі ў другі дзень польскага Вялікадня я ехаў у Крынкі, дык у Паўночным Востраве сапраўды загарадзіў дарогу нашаму аўтобусу паваленым вятрыскам вяз, стары, упарахнелы ад камля. Аб'язджалі загуменнем.

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Ніна Мацяш, выдатная беларуская паэтка і перакладчыца з франкамоўнай літаратуры;*

*— „Смерць вяза", апавяданне апублікаванае потым у „Ніве" ад 7 чэрвеня т.г.*

# ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

Калі гэты тэкст дойдзе да чытача, будзе ўжо вядома, якім вынікам закончыліся парламенцкія выбары і рэферэндум у Беларусі. Але не пра выбары хачу пісаць, а толькі пра выбарчую кампанію, якая вялася ў беларускім тэлебачанні і эфіры менскага радыё. Яна была так арыгінальная і непаўторная, што варта ёй прысвяціць трошку ўвагі.

Амаль увесь тыдзень ад 1 да 7 мая глядзеў я галоўную інфармацыйную праграму „Навіны", каб даведацца ці ўвогуле выбары адбудуцца. Мае сумненне выклікала заява старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі, што ягоная ўстанова не распараджаецца ніякімі фінансавымі сродкамі, патрэбнымі для таго, каб галасаванне 14 мая магло адбыцца згодна з планам.

Закон аб парламенцкіх выбарах дазваляў кандыдатам у дэпутаты толькі на пяціхвілiннае выступленне па лакальнаму радыёвяшчанню і на сімвалічную рэкламу таксама ў лакальнай прэсе. Выбаршчык не меў ніякіх шанцаў, каб пазнаёміцца з людзьмі, на якіх павінен аддаць свой голас і якія пасля будуць вырашаць усе найважнейшыя праблемы дзяржавы, нацыі, а затым і кожнага грамадзяніна. Лукашэнка са сваёй камандай дайшлі да вываду, што найлепш было б (для іх), каб новы парламент увогуле не быў выбраны. Тады яшчэ год працягваў бы сваю дзейнасць цалкам ужо яму падпарадкаваны і скампраметаваны Вярхоўны Савет, выбраны для патрэб не існуючай ужо дзяржаўнай структуры званай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. У такіх умовах улада Лукашэнкі не была б нічым абмежаваная. 19 красавіка прэзідэнт Беларусі падчас тэлевізійнай размовы з журналістамі заявіў, што ён сам не збіраецца ісці на выбары і такім чынам заахвочваў грамадства зрабіць тое ж самае. Здаецца, яшчэ не было такога здарэння ў свеце, каб кіруючая дзяржавай асоба заклікала сваім прыкладам ігнараваць палітычны парадак, якога яна павінна быць гарантам.

Успомненая на пачатку тэлевізійная праграма „Навіны", апрача хронікі з жыцця Лукашэнкі, кожны дзень найважнейшай весткай лічыла стан падрыхтоўкі да святкавання „Дня Перамогі" і прысвячала гэтай тэме звыш паловы часу. Справа выбараў паяўлялася толькі ў форме адказаў жыхароў Менска на пытанні анкецёраў. „Што думаеце пра выбары і рэферэндум?", „На каго будзеце галасаваць?" — пыталіся спецыялісты па дэзінфармацыі. У адказ найчасцей гучала: „Не пайду галасаваць", „Я не ведаю гэтых кандыдатаў", „Мяне палітыка не цікавіць". Калі ідзе пра рэферэндум, адказы былі больш станоўчыя. Амаль усе заяўлялі — на расейскай мове — што пойдуць і выкажуць свае „мнение" наконт мовы і нацыянальных сімвалаў.

Так нахабнай маніпуляцыі не праводзілі нават людзі Кебіча падчас прэзідэнцкай кампаніі летам 1994 г. Слухаючы лукашэнкаўскіх прапагандыстаў, чалавек толькі тады ўсведамляе сабе, якім кашмарам з'яўляецца манаполія ўлады на сродкі масавай інфармацыі і брак свабоды слова.

рэд.

# ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

*Працяг са стар. 1*

Падчас II сусветнай вайны загінула каля 2 мільёнаў беларусаў. Такіх страт не пацярпеў ніводзін народ, якога ахапіла ваеннае пажарышча. За якую справу загінуў кожны чацвёрты беларус? Ніводная ж армія не змагалася тут за беларускую дзяржаву, а толькі за свае калоніі. За кожнага забітага савецкімі партызанамі ці акаўцамі немца эсэсаўцы пры дапамозе рэнегатаў з Літвы, Украіны, Расіі, Венгрыі расстрэльвалі цэлыя беларускія вёскі. Дзе тут беларуская перамога?

Мае рацыю прэзідэнт Лукашэнка гаворачы, што ў гэтай вайне пераможцы не змагаліся ні пад знакам Пагоні, ні пад бел-чырвона-белым сцягам. Шкада толькі, што 8 ці 9 мая не назвалі „Днём Заканчэння Вайны". Шкада таксама, што замест вайсковых парадаў не рыхтуюцца сёння масавыя пратэсты супраць вайны і не ўшаноўваецца памяць усіх ахвяр злачыннай палітыкі.

**Яўген Міранові ч**



 

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXIX. Непахісны

Вядома, што кожная школа славіцца сваімі выхаванцамі. Славу Астрожскай акадэміі, заснаванай у 1576 г. у радовай сядзібе князя Канстанціна (Васіля) Астрожскага ў Астрогу на Валыні, множылі яе выхаванцы. Іх дзейнасць дзеля справы абароны і ўмацавання спрадвечнай веры праваслаўнай, роднай мовы, культуры і традыцыі беларускага і ўкраінскага народаў у самыя цяжкія для іх часы канца XVI і амаль усё XVII ст.ст. мела надзвычай важнае, можна сказаць — рашаючае значэнне. Прыпомнім ахвярную, падзвіжніцкую ролю хаця некаторых з іх, што „абагравалі змерзлыя душы агнём Божым".

Нарадзіўся Лонгін Карповіч каля 1580 г. у беларускай баярскай (шляхецкай) сям'і на Піншчыне. Бацька яго быў праваслаўным святаром, чалавекам светлым, патрыётам, які высока цаніў адукацыю, навуку. У духу глыбокай набожнасці, вернасці праваслаўю, улюбёнасці ва ўсё роднае і зацікаўленасці да навукі ён выхаваў і сына. Юнака з даволі добрай хатняй адукацыяй накіравалі ў Астрожскую акадэмію. Пра ягоныя школьныя гады звестак не захавалася, але, мяркуючы па далейшай дзейнасці, можна сцвердзіць, што вынесены з дому задаткі ён там выдатна развіў і ўзбагаціў грунтоўнымі ведамі. Перш за ўсё ў яго душы ўмацавалася адданасць праваслаўнай веры, ён дасканальна авалодаў багаслоўскімі ведамі, вывучыў шэраг старажытных і сучасных моў, няблага спазнаў таксама і друкарскае майстэрства.

Пасля Астрожскай акадэміі яму пашанцавала служыць дыяканам у Кіева-Пячэрскай лаўры, дзе ён духова даспяваў у гэтым „сэрцы" праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Ужо там Карповіч выступаў супраць уніі. Відаць, калі Кіева-Пячэрскай лаўры пачаў пагражаць захоп уніятамі, Карповіч падаўся ў Вільню. Там знайшоў ён больш прыхільную сваёй дзейнасці атмасферу і спадзвіжнікаў. У адным з тамашніх праваслаўных манастыроў, праўдападобна ў Свята-Троіцкім, прыняў манаскі пострыг з імем Лявонція, як пісаў потым яго паплечнік Мялецій Смятрыцкі: *дабравольна ўсяго свету пагрэбаваўшы славутасцямі, адзінай ласкай нябеснага свету сябе ўпрыгожыць імкнучыся ўсё жыццё сваё.*

Айцец Лявонцій перш за ўсё заняўся дзейнасцю ў віленскім праваслаўным брацтве, спачатку як ягоны пісар, потым старшы друкар і карэктар. Аднак неўзабаве уніяцкі мітрапаліт Пацей у 1608 г. з ведама каралеўскай улады захапіў у Вільні 12 праваслаўных цэркваў і брацкі Свята-Троіцкі манастыр і аддаў у карыстанне уніятам. Праваслаўныя выгнаннікі — духавенства, манахі, царкоўныя людзі — вымушаны былі або пакінуць Вільню, або туліцца пры Свята-Духавай царкве. І яны вырашылі не дапусціць да знішчэння праваслаўя ў сталіцы Старабеларускай дзяржавы і ўтрымацца ў ёй. Намаганнямі манаскай брацііі свецкай віленскай праваслаўнай грамадскасці, узначаленых а. Лявонціем, пры Свята-Духавай царкве паўстаў манастыр, які пераняў, прадоўжыў і ўзбагаціў векавыя традыцыі Свята-Троіцкага манастыра, стаючыся галоўным цэнтрам праваслаўнага духовага жыцця на беларускіх землях. Пры ім гуртуецца ўсё болей абаронцаў праваслаўя.

На пачатку 1609 г. а. Лявонцій як дэпутат выступіў у Варшаве на вальным (агульнадзяржаўным) сейме з прамовай-пратэстам супраць самаўпраўства уніятаў і праследавання праваслаўных, але ўлады засталіся глухімі на гэтую скаргу. Аднак а. Л. Карповіч не спыняе свайго змагання. У брацкай друкарні пры Свята-Духавым манастыры ён у 1610 г. выдае *Фрынас або лямант адзінай сусветнай усходняй Царквы з вытлумачэннем догмаў веры* Мялеція Смятрыцкага. У гэтым таленавітым творы, між іншым, ад імя праваслаўнай Царквы, аўтар гаворыць: *Сыны і дочкі мае, якіх я нарадзіла і выхавала, пакінулі мяне і пайшлі за той, якая імі не пакутавала, каб удосыт насыціцца ад яе тлустасці. Святары мае асляплі, пастыры, не жадаючы ведаць таго, што змаганне ідзе за душу, анямелі. Старцы мае здурнелі, юнакі здзічэлі, дочкі пайшлі на распусту, і ўсе аднадушна, Бога і праўду забыўшы, замахнуліся на маю душу.* І ў іншым месцы твора голасам Царквы гаворыцца: *Прыяцелі сталі ворагамі, сыны мае, пазайздросціўшы зміінаму племені, джаляць маё цела здрадлівымі джаламі.*

Геніяльны гэты твор — несмяротны: хаця ён і напісаны амаль чатырыста гадоў таму назад, але закранае за жывое самыя балючыя справы і сённяшняга жыцця праваслаўнай грамадскасці, асабліва ў нас, у Польшчы.

І не дзіва, што уніяцкая і каталіцкая іерархія, прачытаўшы *Фрынас*, узняла ў краіне страшэнны вэрхал, пабегла да караля. Галоўны тадышні яе ідэолаг Пётр Скарга абвінаваціў аўтара твора ў дзяржаўнай здрадзе ў карысць Масквы (тады якраз праціягвалася польская авантура з захопам расейскай сталіцы і насаджэннем у ёй Самазванцаў) і садзейнічанні паўстанню казакаў на чале з Налівайкам, а праваслаўную Царкву абазваў *налівайкаўскай*. Кароль Зыгмунт III Ваза адразу ўсёй моцай свае ўлады накінуўся на віленскую праваслаўную грамадскасць, загадаў ... *друкарню і шрыфт ад таго рускага брацтва забраць, а друкароў і аўтараў... і іх карэктара Лявонція Карповіча... на ратушу або ў турму ўкінуць.* Кнігу загадаў ён канфіскаваць і спаліць, а тых, у каго *Фрынас* знойдуць, абкласці аграмадным штрафам. М. Смятрыцкаму ўдалося скрыцца, але Л. Карповіч з іншымі праваслаўнымі дзеячамі апынуліся ў турэмным лёху. Перад віленскай ратушай зашугала полымя кастра, на якім згарэлі амаль усе экземпляры *Фрынаса.*

Аднак і гэта не зламала а. Л. Карповіча. Пасля выхаду з лёху ён, хворы і аслаблены, адразу вярнуўся да папярэдняй дзейнасці, узначаліў навуковую і выдавецкую (заснаваную ў г. Еўі) справы брацтва. Яму была даручана адказная пасада рэктара брацкай школы. У 1613 г. ён быў пасвячаны ў сан іераманаха, брацтва Свята-Духава манастыра выбрала яго сваім ігуменам, а царкоўныя ўлады паблаславілі ў архімандрыта. І ўсе абавязкі а. Лявонцій выконваў з бязмежнай адданасцю, як *сапраўдны апостальскі муж гэты ішоў услед Хрыста, тройчы Яму сябе на верную службу аддаўшы паслугам — дзвюма публічнымі: як святар і архімандрыт, і перш за ўсё адной асабістай — як манах,* — гэтак пісаў потым пра яго М. Смятрыцкі, падкрэсліваючы, што — *у справе і слове быў настаўнікам.* І не абмяжоўваў свае духовае місіі толькі да Вільні ці Беларусі: кіраваў натхняючыя пасланні да подзвігу і стойкасці ў праваслаўі да львоўскай і іншай брацій. З ягоных твораў, выдадзеных друкам, дайшлі да нас пропаведзі: *На Праабражэнне Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, На Успенне Прачыстае Праблагаславеннай нашай Багародзіцы і Дзевы Марыі* і *Навука ў нядзелю перад Нараджэннем Хрыста*, а таксама *Кароткае сказанне пра трыццаць чатыры ерасі* і некалькі іншых твораў. Вылучаюцца яны глыбокімі багаслоўскімі ведамі, высокай культурай творчасці і ўздзеяннем на людзей. Ён заклікаў да маральнага самадасканалення паводле навукі Хрыстовай, да вернасці і ахвярнага служэння праваслаўю; асуджаў тых, хто жыве толькі *дзеля свае карысці... і служыць бруху і мамоне.*

У 1620 г. у Рэч Паспалітую, праездам з Масквы, прыбыў патрыярх іерусалімскі Феафан і ў Кіеве патаемна адрадзіў праваслаўную іерархію для Украіны і Беларусі. Праваслаўная грамадскасць Віленшчыны выбрала і рэкамендавала ў епіскапа архімандрыта Лявонція Карповіча. Аднак воля Гасподняя была іншая: айцец Лявонцій памёр 24 верасня 1620 г., некалькі дзён перад патрыяршым бласлаўленнем.

Асоба архімандрыта Лявонція Карповіча і ягоны велічны ўклад намагання ў духоўнае жыццё і абарону праваслаўя на роднай беларускай зямлі застаецца навечна ў памяці нашага народа.

**Мікола Гайдук**

---

*Юбілейныя водгаласы*

## ВІКТАРУ ШВЕДУ

Дзесятак сёмы ўжо мінае
Табе, мой Віктар дарагі.
Восьмы дзесятак даганяе,
З табою топча мурагі.

Шпакі здалёку прыляцелі —
Хіба пачулі твае свята.
Чмялі ў гародзе зашумелі,
Хоць яшчэ кветак небагата.

Няхай жаўрук табе спявае,
Фіялка зацвіце ў гародзе.
З бакалам хай цябе спаткае
Многа сяброў у добрай згодзе.

І твая слава у краіне
Ідзе ад краю і да краю.
Ніколі памяць не загіне
Бо Шведа кожны малыш знае.

Многа напішаш яшчэ вершаў
Для нашых дзетак і для нас,
Бо ты паэт ужо наш
найпершы,
Што смела крочыш на Парнас.

Мае прымі ты пажаданні:
Славы, здароўя і сяброў
І новых кніжак у кнігарні
І шмат яшчэ жыцця гадоў.

*Варшава, 23.III.1995*

**Вацлаў Будзька**

* * *

*Спадару*
*Віктару Шведу*
*з нагоды яго прыезду*
*ў Гародню ў Дзень яго*
*70-годдзя*

На зямлі Беласточчыны
цешыць той след,
Што сагрэе душу
беларуса-суседа.
І паўсюды чытаецца там:
Віктар Швед,
І паўсюды сляды — пана
Віктара Шведа.

За якой бы мяжою не быў
яго дом,
Але сэрцам заўсёды ён —
на Беларусі,
Бо яна стала моцным
высокім крылом
І нязменнай уцехай
у болю і скрусе.

**Марыя Шаўчонак**

---

# Эльжбета Данішэўска

Нарадзілася 20 снежня 1924 года ў Кнышыне на Беласточчыне. Ад многіх гадоў працуе на ўласнай гаспадарцы. Піша вершы, прозу, малыя сцэнічныя пастаноўкі, успаміны. Выдала тры паэтычныя зборнікі: „Ludziom i Ziemi" (1984), „Mój dom rodzinny" (1984), „Od świtu do zmierzchu" (1991) і том успамінаў „Chowałam się w słowach" (1979).

* * *

Маё шчасце малое заўсёды
іншага мне аднак жа не трэба
дом у вёсцы з малым агародам
і збанок малака з лустай хлеба

Куры каб знеслі мне крыху яек
і падрос парасёнак пад святы
дзеці хай аба мне памятаюць
хай шалеюць у хаце ўнучаты

Хай спяваюць да раніцы птушкі
і сабака брахне на падворку
я на прызбе ката хачу гушкаць
груш і яблык сабраць адвячоркам

Пасядзець цёплым вечарам летам
адпачыць добрай ночкай нямнога
развітацца спакойна са светам
і болей не трэба нічога

### Да сяброўкі

Сяброўчачка мая
найлепшая заўсёды
скажу табе я сёння
на сэрцы што ляжыць

Табе адной адзінай
на цэлым божым свеце
прадстаўлю ўсе турботы
усё сваё жыццё

Ты зможаш сваім словам
гарачым быццам сонца
мне хворанькае месца
пластырам палячыць

Прытуляць твае рукі
мяне быццам дзіцятка
тваё пляччо мне будзе
калыскаю маёй

Аж выплачу ўсе слёзы
як беднае дзіцятка
і сыдзе з майго сэрца
страшэнны той цяжар

### Родны дом

Малюсенькае месца
агромністага свету
мне блізка-дарагім
тут кожненькі куточак
мае малыя ножкі
абходзілі штораз
пакуль не дараслі
далей па-за парогам
маёй бацькоўскай хаты
я вытаптала сцежкі
яны штораз далей
вадзілі ў свет шырокі
ў дарослае жыццё

І толькі там было
бяспечнае мне месца
дзе матчына далонь
перад усякім ліхам
змагла абараніць
стары драўляны плот
сцярог заўжды граніцу
уласнага тут месца
на дарагой зямлі

* * *

Як добра жыць у свеце
дзіцячых мар
калі бацькоўскі дом
ёсць крэпасцю магутнай
перад усякім злом

Як добра легчы спаць
не маючы турботаў
на заўтрашні дзянёк
Хай думае хто іншы
сарваць як без калючкі
пару духмяных руж

Як добранька памарыць
аб рыцары з той казкі
І заглядаць у вокны
Ці вось не едзе ён

І добра так не ведаць
што у жыцці дарослым
так засмучэнняў шмат

* * *

Найбольш бяспечнае
месца на зямлі —
фалды
матчынай спадніцы
як добра
у мяккую воўну
схаваць малую галоўку
калі побач хтосьці чужы
толькі малыя ножкі
тупаюць
па глінянай падлозе
каля вялікіх ступняў
паколатых іржышчам
скалечаных балюча
палявым каменнем

*Пераклаў*
*Віктар Швед*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У Грабаўцы

Калі „Зорка" завітала ў Грабавец, якраз было гавенне (рэкалекцыі). Адбывалася яно ў Дубічах-Царкоўных, бо там якраз знаходзіцца царква. Дзеці з Грабаўца і Елянкі пайшлі спавядацца.

— У нас усе дзеці любяць рэлігію, — сказала „Зорцы" Аня Пракапюк з VI класа.

Гэта, несумненна, цешыць не толькі айца Віталія і матушку Валянціну, якія навучаюць тут рэлігіі, але і многіх бацькоў, бабуль і дзядоў.

Алік Нічыпарук з Грабаўца стаў нават прыслужнікам. Згаданая ўжо Аня кожную нядзелю разам з мамай ідзе ў царкву.

У Грабаўцы толькі 26 вучняў. Шосты клас, самы амбітны і працавіты, налічвае толькі пяць дзетак. Не дзіва тады, што спалучаны ён з пятым класам. Некаторыя класы ўвогуле ўжо не існуюць. У Грабаўцы амаль усе вывучаюць беларускую мову. Гэтаму прадмету навучае іх спадарыня Ірэна Буйноўская. Яна таксама чытае сваім вучням „Зорку".

А што гаварылі бацькі пра сваіх школьнікаў?

— Хаця сваіх дзяцей нельга хваліць, аднак трэба адзначыць, што мая дачушка памывала ўсё, прыбрала перад святам, — хвалілася цётка Люба Пракапюк.

Таксама старэйшыя хлопцы не сядзелі перад тэлевізарам. Памагалі веяць збожжа, бо бацька якраз збіраўся начынаць сяўбу. У Грабаўцы ўсе дзеці памагаюць сваім бацькам у гаспадарцы. Нават умеюць плесці прыгожыя, саламяныя каробкі. Пры такой цікавай працы дзеці не толькі зарабляюць грошы, але і развіваюць мастацкія здольнасці.

Можа таму ў Грабаўцы такія прыгожыя дзяўчаты?

**Тэкст і фота „Зоркі"**



*Аня Пракапюк з Грабаўца.*




### Прывітанні з Бельска

5 красавіка 1995 года прыехаў да нас на сустрэчу Лёнік Тарасэвіч і „Зорка". Пані рэдактар падзякавала нам і падаравала дзве ручкі-даўгапісы за тое, што мы напісалі пра Мажанну. Мы падрыхтавалі нашую залу, ссунулі парты пад сцяну. Тады пан Лёнік сказаў, каб наш клас маляваў вёску ў розных парах года. Кожны маляваў такую пару, якую хацеў. Мы выбралі зіму. Хутка празвінеў званок і наша настаўніца сказала, каб мы пайшлі ў іншую залу. Узялі мы з сабой крэйду і каляровыя алоўкі. На месцы зноў пачалі рысаваць той самы малюнак. Пані рэдактар усім памагала рысаваць, а на канец дала нам кніжкі „Дзікае паляванне караля Стаха". Пан Лёнік у кожнай кнізе падпісаўся і штосьці намаляваў, а „Зорка" таксама падпісалася і намалявала кветкі. Калі мы скончылі рысунак, пані забрала яго і занесла ў клас, а ўсе дзеці пайшлі дахаты.

**Паўліна Попік**
**і Анэта Леанкевіч,**
**клас III„е",**
**Школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

### Сустрэча з мастаком



5 красавіка 1995 г. на ўроку беларускай мовы мы сустрэліся з мастаком Лёнікам Тарасэвічам і з „Зоркай". Мы рысавалі каляровымі алоўкамі вясну, лета, восень і зіму. Памагаў нам у гэтым наш госць, а нашая настаўніца рабіла здымкі. Калі мы скончылі рысаваць, пан Лёнік растлумачыў нам, як рысаваць розныя рэчы — папугайчыкаў, рыцараў, кветкі. Некаторыя малюнкі былі вельмі смешныя.

**Лешак Белаказовіч,**
**клас III„е",**
**Школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**



*"Зорка" памагае рысаваць.*
**Фота Аліны Ваўранюк**

### Вершы Віктара Шведа

**НАТА БУДЗЕ БАГАТАЙ**

Просіць унучаньку бабуля:
— Трымай у ручцы грошы, Ната.
Чуеш, азвалася зязюля,
Ты будзеш у жыцці багатай.

Бярэ манету Ната ў руку
І замірае на хвілінку:
Зязюля сваё ку-ку, ку-ку,
Ёй паўтарае безупынку.

**У ВЁСЦЫ**

— Бабуля, што гэта такое? —
Наталька запытала ў вёсцы.
— Гэта, унучка, фура гною,
Яго раскінем на палосцы.

— Чаму ж, скажы мне дарагая,
Гной гэты пахне так пагана?
— Гэта нічога, вырастае
На ім шмат бульбачкі духмянай.

Творчасць нашых суродзічаў

## За адзін дзень

*Абразок*

Вось мы і ў Залессі! З аднаго боку чыгункі — лес, з другога — вакзал, абадраны, як старая скураная куртка... Ужо сутоніцца. Наш цягнік спазніўся — дык стаіць яшчэ на сваёй каляіне. А на пероне дзве дзяўчыны развітваюцца з сяброўкамі.

Бяда: прыехалі мы на гасціны да дзядзькі Сяргея, а нататнік, дзе запісаны яго залескі адрас, — забыліся. Бацька моршчыць лоб:

— Здаецца, вуліца Піянерская...

Нарэшце цягнік запыхкаў, зафыркаў, як чайнік, і паволі папоўз, падобны да пакрыўджанай чарапахі... Дзяўчаты на развітанне замахалі яму ўслед рукамі, і бацька заспяшаўся да іх:

— Ці не падкажаце, дзе вуліца Піянерская?

— Вунь там, — няпэўна паказалі.

Бацька працягвае роспыты:

— А ці не ведаеце, дзе жыве Сяргей Іванавіч, настаўнік?

— Дык вунь жа ён стаіць!.. — заўсміхаліся дзяўчаты.

І тут мы ўбачылі на процілеглым пероне чалавека з роварам.

...Шасцігадовы брацік Міця адразу ж уладкаваўся на сядзенні і, шчаслівы, паехаў, падтрыманы дзядзькам Сяргеем.

Потым мы мусілі адгадваць — у пакаранне за забыты нататнік, — які дом на Піянерскай дзядзькі Сяргея. Неўзабаве вызначылі — усё ж гэта вёска, а не горад...

Пасля вячэры пакладіся спаць. Засынаючы, я падумаў: „Сёння мы ехалі аж на двух цягніках, цэлы дзень аглядалі Вільню, а цяпер адпачываем ужо ў Залессі — колішнім маёнтку Агінскіх. Столькі ўражанняў — за адзін дзень!..

**Глеб Канунніхаў,**
**VI клас СШ,**
**Гродна**

# Вучні з IV ліцэя



*На ўроку беларускай мовы. Злева: Пятрусь Пракапчук, Аліна Гуральчук, Ігар Лукашук, Юрка Шульскі і Івона Троц.*

На адных занятках мы хацелі вывучыць новую песню. Пятрусь Пракапчук прыйшоў з гітарай. Узнікла адная праблема. Памешчаныя ў зборніку творы былі ўжо ўсім вядомыя. Таму праспявалі па чарзе ўсе. Некаторыя нават на два—тры галасы.

* * *

Навучанне беларускай мовы ў IV Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку пачалося з другога семестра па жаданні вучняў.

— Я сам хацеў пазнаць беларускую мову, таму не меў выбару, як толькі арганізаваць такія ўрокі ў сваёй школе, — прызнаўся Ігар Лукашук.

Ігар вучыцца ў другім класе. Ён не толькі арганізатар заняткаў, але і душа нашай групы. Дадаткова вучыцца ў музычнай школе. Сам ён родам з Гайнаўкі. Падобнай матывацыяй кіраваўся і Пятрусь Пракапчук. Ён, як і іншыя ягоныя сябры з чацвёртых класаў, разумелі і пераждывалі ідэю Ігара. Таму і запісаліся на ўрокі беларускай мовы. Ліцэістам многа дапамог іх настаўнік рэлігіі Міраслаў Хіліманюк. Ідэя ажыццявілася.

* * *

Аліна Гуральчук і Івона Троц прыйшлі вучыцца ў Беласток дзеля заняткаў па лёгкаатлетыцы. З сябрамі з беларускай групы сустрэліся ўжо раней. Яны разам з Петрусём Пракапчуком і Юркам Шульскім стварылі „Балаган". Удзельніцтва ў гэтай самадзейнай групе дало ім імпульс думаць пра сябе як пра беларусаў. Ад першага ўроку гаварылі, натуральна, на палескім дыялекце.

— Раней гэты прадмет я вывучала ў пачатковай школе, цяпер калі зноў сустрэлася з ім, успомнілася ўсё, што было ў бельскай „тройцы", — заявіла Івона. Адзначыла таксама, што ўрокі беларускай мовы ўцешылі яе бацькоў. Івона родам з Бельска. Аліна Гуральчук не толькі чароўна дэкламуе паэзію, але і цікавіцца гуманістыкай. Калі прачытала „Дамавікамэрона" Адама Глёбуса і „Слова пра паход Ігара" заявіла, што нават не падазравала, што ёсць такая літаратура на беларускай мове.

Згаданы Ігар Лукашук таксама адзначыў наступнае:

— Найбольш мяне здзівіла тое, што беларусы маюць так багатую культурную спадчыну. Да таго з самой Беласточчыны заўсёды было многа беларускай інтэлігенцыі. На жаль, нашыя людзі нават сабе гэтага не ўяўляюць. Адгэтуль і бярэцца максімальная закамплексаванасць сярод моладзі...

Ігар Лукашук, Пятрусь Пракапчук і Юрка Шульскі — сябры Звязу беларускай моладзі. Там якраз сярод сяброў пачалося іх першае сур'ёзнае думанне пра Беларусь.

Двух хлопцаў з нашай групы іграюць у славутым рок-гурце „Брага". Пятрусь Чабан — басіст і бубнач Пятрусь Пракапчук — не могуць дачакацца „Басовішча". У групе яшчэ адзін цікавы хлопец — Янка Сахарчук. Хлопец нарадзіўся і выхоўваўся ў Ленінградзе. Пазбаўлены беластоцкага бачання беларусаў, з энтузіязмам пачаў прыходзіць на ўрокі. Янка хацеў бы з гэтага прадмета здаваць матуру.

* * *

На ўроках беларускай мовы мы не толькі вывучалі культурную спадчыну, але і ладзілі цікавыя сустрэчы і падарожжы. Ужо на другім уроку гасцілі вядомага гісторыка Алега Латышонка. Ад яго мы даведаліся пра Полацкае княства, Усяслава Чарадзея і часы, у якіх адбываюцца падзеі ў „Слове пра паход Ігара".

Пабывалі мы таксама на юбілейным вечары Віктара Шведа. Дзень пазней наведалі беластоцкі тэатр, у якім ставілася п'еса Дуніна-Марцінкевіча. Зразумела, што гэтыя дзве культурныя падзеі стварылі нагоду пагаварыць пра беларускі тэатр і творчасць „белавежцаў". Іншага роду формай заняткаў была экскурсія ў Супрасль. Там мелі мы нагоду сутыкнуцца з жывой легендай, культурным асяродкам на нашых землях.

Зараз таксама плануем рэйд „Вершалінскім шляхам". Каб стаць удзельнікам гэтай вандроўкі трэба прачытаць кніжку Аляксея Карпюка „Вершалінскі рай". Да легендарнай тэмы вярнуліся мы менавіта таму, што сябра Пятрусь Пракапчук выводзіць свае карані са Страшава — роднай вёскі Аляксея Карпюка.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

## Увага васьмікласнікі!

Многія з вас яшчэ хістаюцца ў выбары далейшай школы. Таму сёння прапануем вам наведаць IV Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку.

— Наш ліцэй, — гаворыць дырэктар школы Ежы Кішкель, — мае багатыя традыцыі. Школа існуе ўжо 20 гадоў. У гэтым годзе плануем набор кандыдатаў у восем аддзелаў. Вучні могуць выбіраць спецыялізацыі ў напрамках:
— гуманістычным,
— біялагічна-хімічным,
— матэматычным,
— спартыўным (лёгкаатлетычны профіль),
— агульным з пашыраным вывучаннем англійскай мовы.

У школе пачалося выкладанне беларускай мовы. Зараз гэта заняткі для добраахвотнікаў. У наступным годзе плануецца пачаць нармальнае навучанне гэтага прадмета.

За чатыры гады ўсе зацікаўленыя асобы будуць мець магчымасць здаваць экзамен на атэстат сталасці па беларускай мове як дадатковы прадмет або як замежную мову.

Усіх зацікаўленых інфармую, што ўступныя экзамены адбудуцца 26 і 27 чэрвеня 1995 г. Тут, як амаль усюды, экзамены па польскай мове і матэматыцы. Дадам, што кандыдаты з-па-за Беластока могуць атрымаць месцы ў інтэрнаце.

**Адрас школы:**
**IV Агульнаадукацыйны ліцэй**
**вул. Звежынецка 9А, тэл. 422-318**
**15-313 Беласток**

**Ганна Кандрацюк-Сьвярубская**
**(настаўніца беларускай мовы ў IV Агульнаадукацыйным ліцэі)**



*Пятрусь Чабан (другі злева) і Пятрусь Пракапчук (наступны) іграюць у рок-гурце "Брага". Пра сам гурт чытайце на наступнай старонцы.*

З гісторыі Беларусі

# Усяслаў Чарадзей

Усяслаў быў сынам полацкага князя Брачыслава. Царстваваў у II палове XI ст. у паўночнай Беларусі (уключна з паўночнай часткай сённяшняй Беласточчыны). Імя Усяслаў значыць „той, які славіцца ўсімі і ўсюды" і мае прадвяшчальны характар. Слава ўладара грозных палачанаў — белых русаў — грымела па ўсіх берагах Балтыйскага мора.

Людзі не маглі паверыць, што чалавек можа мець такую незвычайную моц. Яны думалі, што гэта моц нечалавечая, а чарадзейская. Расказвалі, што Усяслаў нарадзіўся не ад свайго бацькі, а толькі ад змяінага цара — цмока. Упэўнівала іх у тым тое, што Усяслаў нарадзіўся з яйном на галаве (па-польску гаворыцца аб такіх: „w czepku urodzony"). Гэтае яйно ён насіў скручанае на шыі як талісман.

Усяслаў вырас маладзёнам высокім і прыгожым. Меў доўгія цёмныя валасы і шэрыя вочы. Як кожнаму маладому князю, марылася яму вялікая слава, а славу заваёўвалі князі са зброяй у руцэ.

Усяслаў спаймаў вялікага чараўніка, якога па-грэчаску звалі Мантый і загадаў яму забяспечыць чарамі будучыя ваенныя перамогі.

Мантый расклаў агонь, падняў начынне з крывёю і сказаў: „Вось табе, княжа, полымя нябеснае запаленае. Калі ў ім жалеза загартуецца, ніколі не зламаецца. А гэта кроў цмокава. Памачы ў ёй тройчы кап'ё, а таксама валасы з галавы тваёй дай на ахвяру богу бацькоў нашых. Тады дзяржава твая ніколі не разбурыцца праз моц яе".

Усяслаў згадзіўся памачыць кап'ё, але адмовіўся спаліць валасы. Тады Мантый сказаў: „Калі ты не пажадаў валасоў даць, дык раз'ятрыш ворагаў тваіх усіх, але гарадоў іх не запаленіш. Не будзеш уладарыць праз сваю няўпэўненасць, адно толькі места Полацкае будзеш бараніць сваім кап'ём".

Усяслаў засмуціўся і зачыніў Мантыя ў вежы. Абяцаў адпусціць яго на волю, калі той навучыць яго ўсіх сваіх чараў. Хутка Усяслаў навучыўся скарыстоўваць сваю моц. Першы раз праявіў яе, калі сцягнуў дождж на сваё дворышча, запаленае ворагамі.

Як пяяў славуты пясняр Баян, „на сёмым вяку Траяна Усяслаў кінуў жэрабя аб дзяўчыне яму мілай", сеў на каня і павёў сваю дружыну ў бой. Споўніліся тады словы Мантыя. Усяслаў узяў Вялікі Ноўгарад і засеў на залатым кіеўскім пасадзе (троне), але штораз падымаліся супраць яго незлічоныя ворагі. Ім не раз здавалася, што яны перамаглі Усяслава, але той вырастаў як з-пад зямлі ў іншым месцы і працягваў змаганне.

Умеў ён пераўтварыцца ў шэрага ваўка і за адну ноч дабегчы з Кіева да Тмутаракані над Азоўскім морам. Калі пасварыўся з кіяўлянамі, сінім туманам паляцеў у Полацак. Бывала, Усяслаў доўга блукаў у паўночных краінах, сярод шведаў і фінаў. Аднойчы лётаў нават у Індыю, але заўжды вяртаўся ў Полацак.

Паколькі ніякі чалавек не мог перамагчы Усяслава, ворагі чарамі наслалі на яго наўе. Наўе — гэта свежыя мерцвякі, якія ўсталі з магілы (як, напрыклад, зомбі). Мерцвякі нябачна праніклі ў Полацак. Ноччу па вуліцах горада чуліся стогны, тупат і ржанне коней. Гэта гойсала па горадзе наўе, хоць ніхто з палачанаў яго не бачыў. Кожны, хто з цікавасці выйшаў са свайго дому, ці толькі крыху адчыніў акно, паміраў, уколаты нябачным ворагам, які пакідаў толькі сляды конскіх капытоў. Калі ж палачане перасталі выходзіць ноччу са сваіх дамоў, наўе пачало дзейнічаць і белым днём. Сярод стогнаў, плачаў і тупату паміралі палачане.

Не ведаем, на жаль, якім чынам Усяслаў справіўся з наўем, але і мерцвякі не здолелі яго перамагчы. Іх увярванне ў Полацак было апошняй справай загубіць Чарадзея. Памёр ён сваёй смерцю пасля 57 гадоў уладарання ў першы год новага, XII стагоддзя.

**Алег Латышонак**

## КОНКУРС

**Конкурсныя задачы:**

1) Намаляваць Усяслава.
2) Што гэта можа значыць „на сёмым веку Траяна"?
3) Якім чынам Усяслаў мог перамагчы наўе?

*Пытанні прыдумаў Алег Латышонак*

Калі адкажаце на адно з трох пытанняў і адказ дашлеце ў нашу рэдакцыю, тады можаце выйграць гадзіннік з Пагоняй, касету рок-гурту „Брага" або касету з беларускімі дзіцячымі казкамі.

**Зорка**

# R.F. BRAHA: „SLAPY”

29 красавіка гэтага года ў Гарадоцкім асяродку культуры меў месца прамацыйны канцэрт рок-гурту *Брага*. На канцэрце выконваліся кампазіцыі з першага альбома гурту „Сляпы”, запіс якога ў студыі Радыё Беласток быў вынікам перамогі гурту на фестывалі „Басовішча '94”.

*Брага* выступіла на фоне чорнага палотнішча, якое белымі літарамі паведамляла „R.F. BRAHA Haradocki Asiarodak Kultury”. Сцэна была выстылізавана на сметнік, валяліся па ёй бутэлькі, баначкі, паперыны, а можа і яшчэ якое смецце. Канцэрт трываў якіхсьці пяцьдзесят хвілін — дакладна толькі, што канцэртны варыянт кампазіцый альбома „Сляпы”. У час канцэрта распаўсюджваліся касеты з запісам альбома, фатаграфіі гурту, плакаты, спецыяльныя кашулькі... Словам, усё як трэба. Пасля канцэрта адбыўся пачастунак з удзелам як музыкаў *Брагі*, так і прадстаўнікоў культурна-палітычнага свету Гарадка і Беластока. Можна было пра сёе-тое распытацца, папрасіць аўтограф, і г.д.

Едучы ў Гарадок на канцэрт *Брагі*, брала мяне злосць за загаловак альбома — чаму менавіта *Сляпы*, навошта гэтае англафільства. *Кульгавы* або *Клышавы* было б больш у нашым беластоцкім духу. Пабачыўшы аднак графічнае афармленне касеты ды мастацкую забудову канцэрта, мая злосць хутка змякчэла. Расплюшч вочы і глядзі... Нешта ў гэтым ёсць.

Ёсць на альбоме „Сляпы” адна кампазіцыя незвычайнай удаласці — другая на баку „б”: „Я бачу цябе”. Пачынаецца яна лірычным уступам, які паволі развіваецца ў баладу. Рашучы перкусійны акцэнт падказвае аднак, што маем дачыненне з рок-баладай з немалым ухілам у бок гард-рока. У кампазіцыі дасканала вытрыманая драматургія, ёсць у ёй тое, што называецца аповядам. У кампазіцыі „Я бачу цябе”, згодна класічнаму канону рока, выразна вылучаецца сольная партыя гітары. Да ўсяго гэтага далучаецца яшчэ спеў і нетрывіяльнай паэтычнасці тэкст (*Калі прыйдзе ноч і згаснуць вочы мае,/ Калі прыйдзе сон і забярэ мяне,/ Я бачу цябе...*). Абрывецца кампазіцыя крышку нечакана, пакідаючы ў слухача некаторую порцыю напругі і артыстычны пытальнік. У мяне склалася ўражанне, што тут наймацней выявіліся і зліліся імкненні ўсіх музыкаў у адно артыстычнае рэчышча. Музыка не толькі зладжана гучыць, але і маўчыць там дзе трэба. Гэта, на жаль, толькі адна такога ўзлёту кампазіцыя на першым альбоме *Брагі* „Сляпы”, але ўжо для яе адной, па-мойму, варта набыць альбом і пазнаёміцца з ім.

Іншыя песні — правільныя. Нельга паставіць ім у нечым закід, але і не адзначаюцца яны празмернай захапляльнасцю. Трэба аднак заўважыць, што песні „Я чакаю” і „Паўночны блюз” маюць некаторыя прыкметы гітаў. Завяршаецца альбом гард-рокавай кампазіцыяй „Гімн”, у якую ўдала ўпісана адна страфа „Люблю наш край” на гітару сола. Гучыць „Гімн” не вельмі адкрыўча — моцна прабіваецца ў ім, на мой густ, асацыяцыя са стылістыкай *Блэк Сабат*.

У гарадоцкага гурту вельмі трапная назва, сугучная з музыкай яго першага альбома. Брага — гэта ў працэсе перагонкі гарэлкі рэчыва без канчатковa вызначанага стану, ці лепш сказаць: у паўстане. Брага можа, у рэзультаце, абярнуцца ўсяго ў падпівак, але можа атрымацца з яе і адборны спірт-першачок. Гэткай з'яўляецца і музыка на альбоме „Сляпы” — побач рок-лупцавання, якое цалкам прыемна слухаецца, але якое так і не западае ў душу, знаходзіцца сапраўдныя музычныя дыяменцікі. У які бок пахіснецца *Рок-Фармацыя Брага* — час (настойлівасць і працавітасць) пакажа.

**Аляксандр Максімюк**



## У кіпцюрах цецерука

# Сустрэча з людаедам

Цягнік Варшава—Гайнаўка чамусьці напамінае мне пакойнага дзядзьку Колю. Мой добры дзядзька Коля (хай зоры азараюць ягоную душу) кожную сямейную бяседу пачынаў з бадзёрасцю і размахам, належнай толькі вечнай маладосці. З кожнай апарожненай чаркай, з кожным тостам, з чарговай песняй дзядзькавы словы станавіліся незразумелымі, бы Расея, сказы даўжэлі адсюль аж па Уладзівасток, а дзядзькава галава апускалася ніжэй і ніжэй, каб канчаткова апынуцца сярод талерак з рэшткамі закускі. І толькі дзякуючы цётцы Агаце наш добры дзядзька сустракаў новы дзень у сваёй пасцелі.

Цягнік Варшава—Гайнаўка расстаецца са сваёй бадзёрасцю недзе пад Седльцамі і адна толькі сіла волі машыністаў, гэтых нястомных паслядоўнікаў цёткі Агаты, прыводзіць яго да месца прызначэння.

Бездапаможныя роздумы над людскімі рысамі польскай чыгункі перарваў уваход у маё купэ дзіўнага пасажыра. Чаму гэты невялікі, непрыкметны чалавек паказаўся мне людаедам, не ведаю. Падсвядомасць? Тэлепатыя? А мо касмічны імпульс, які, высланы нябачанай рукой, пранізвае нетры сусвету, звязвае нас, злых і добрых, крывых і простых у адзін гаманлівы, дрыжачы пучок, каб у рэшце рэшт адасланы ўсіх у багну забыцця?

Усё-такі першае ўражанне, як паказалі пазнейшыя падзеі, было абсалютна трапнае.

Чалавек, рассеўшыся ёмка побач акна, працягнуў руку ў агромністую сумку, адкуль дастаў нейкі клуначак. Разгарнуў яго і маім вачам паказаўся ладны кусок мяса, апрануты ў пекную лусту белага хлеба.

— Пакаштуеце? — працягнуў клуначак у мой бок.

— Не, дзякую. Гэта што? Свініна?

— А дзе там! І не свініна, і не ялавічына, і не дзічына. Гэта проста — палячына. Наш бельскі далікатэс.

Быццам бы для пацвярджэння аўтэнтычнасці гэтых слоў у ягоных вуснах пачало нешта цокаць і пшэкаць, усё галасней і галасней.

— І гэта добрае?

— Вядома, што добрае. Вельмі добрае. З малых гадоў спажываю і, дзякуй Богу, ніколі не хварэў. Помню, яшчэ ў дзетсадзе быў у мяне сябрук. Франак яго звалі. Кругленькі такі, поўненькі, бы з рэкламнага праспекта. Бывала, гуляем у мяч ці ў хованкі, а мне ў вачах не Франак стаіць, а скажам, адбіўная катлета, ці гуляш нейкі. У рэшце рэшт адвёў я сябрука ў адно спакойнае месца. І так гэта пачалося. Шукалі потым Франака суседзі, міліцыя, войска. Усё напуста! І толькі адзін міліцэйскі сабака, калі ўжо дакладна абнюхаў мой жывоцік, дык разарваць хацеў. Пасля гэтага сабаку загадалі ўсыпіць, што быццам бы ён здурэў. Шкада стварэння, разумнейшае было за сваіх начальнікаў. Ой, цяжкія гады былі, не скажу. Колькі ж нашвэндацца трэба было, каб страўнік напоўніць і ў астрог не папасці. Цяпер гэта драбяза: пачуў бурчанне ў калдуне — працягваў руку і бяры, што захочаш: Казіка, Стася, Ёлю. Асабліва ў Бельску. Вось час прыйшоў, марам не плылі, а ў Амерыку папалі.

Цягнік, як гэта цягнік, дацягнуўся ў рэшце рэшт у Чаромху і майму субяседніку трэба было перасаджвацца.

З гэтай пары, калі толькі бываю ў Бельску, а нехта глядзіць на мяне галодным зрокам, заўсёды стараюся адазвацца якім-небудзь беларускім словам.

Усё ж такі дурна было б скончыцца ў жываце нейкага пражэрлівага земляка.

**Міхась Андрасюк**



*БАРЫС РУСКО*

### Слова ў вершы

Не чытаю вершаў па памяці,
магу згубіць слова,
а слова — маўклівому,
які бачыць і чакае.
Слова будзіць зорку,
бо яно з верша,
а верш — госць нечаканы,
як праўда.
Не магу згубіць праўды,
падбіраю словы з развагай.

### Выклік

Выклікаю Вас да ракі свята,
піце праменне праўды,
а цеплыню ласкі прыміце,
як прабачэнне,
а цела сваё вымыйце ў крыніцы,
што з сэрца зямлі б'е,
а душу ў спакоі пакіньце,
у тым месцы, дзе ляжыць вечнасць,
поўная, як сказанае Слова.
Пакіньце ўсё, што Вам чужое
ў каляіне мінулага,
а вазьміце з сабою чыстыя рукі
і маліцеся, бо не ведаеце,
што чакае Ваш дом.

### Людзі

Далёка тыя, што стаяць побач,
і краявід у іх у іншым памеры,
мечаныя твары за ажурным
выглядам,
і датыкаюць плоскасць
супрацьлеглых глыбаў.
Пустыя словы, пытанні старыя.

* * *

Існуюць у свеце звышвартасці,
пры іх прадметам нуль цана.
Жыць у гэтых з'явах — дакранацца
да свята
і спажываць плод далікатны,
як лёгкасць думкі ў подыху цішы.

### Звалка

Пагашаны агарак
і кадзіла мёртвае
ляжаць па суседству
на безыменнай форме.
Пахне іржавай цішай...
Толькі вецер жалобна
на шкілетах завые
і на першым завароце
змоўкне.
У сабакі бяздомнага
тут свой дом
заўсёдны.

### Вольная воля

Дайце мне вольную волю —
і я крылаты,
і я спяваю,
і я іграю на скрыпцы.
А потым,
купіўшы за нішто планету,
па гонях бязмежных гуляю
з рукзаком вершаў.
Дайце мне вольную волю —
і дрэвы растуць да старасці,
і рэкі з берагам роўныя
і ап'янелі ад кветак мядовых матылі.
А потым,
купіўшы за нішто неба,
загадваю зоркам гаварыць праўду.
Дайце мне вольную волю —
і ўбачыце сябе.

### Трывога шукальніка

Пасярод акіяна калышацца крыж.
У пошуках гарызонту
хвалі бягуць і знікаюць.
Вочы бачаць хвалі,
шукаюць сэнсу.
За плячыма сэнсу гарызонт.
Жэст ветру гайдае хвалі,
У вушах пошум праўды,
праўда пад слоем ілюзіі.
Колькі трэба біць ілбом
аб камень,
каб забіла вада.
Пасярод акіяна крыж.
За гарызонтам сэнсу.

# РАДЗІМА —РОДЗІНА

**Частка X**

У далейшым цытую разважанні маёй маці аб „роднай старане".

„Я, здаецца, табе сказала, што нічого добраго з таго ні выдзе, што нашы людзі параз'ежалісе па цэлой Польшчы. Ну, то можэ я гэто сказала ні так як трэбо. Бо гэто ж усё залежыт ад чалавека. То ж ты мне калісь гаварыў, што некаторы беларусы уцікалі перад фронтам, бо баяліся Сталіна і заехалі аж у Амэрыку, і што яны там гаворат па-своему і кніжкі пішут па-своему. То яны там жывут ужэ много лет і ні забылі пра тое сколь яны і што яны за адны. Ну, а бачыш, многі з нашых людзей выедут з вёскі ў Нізбодку або ў Гайнаўку, чы ў Беласток, пажывут там рок-два і, калі прыедут да нас, то ужэ яны забылі свой язык і пшэкают па-польску. Та што ж гэто за людзі? Гэто парасята, а не людзі. То ж Бог даў людзям і родну зямлю, і родны язык, і родну веру, і людзі павінны шанаваці і аднэ, і другое, і трэцяе. Але ведомо, што каждому ў голаў разумных мазгоў ні ўставіш. Многіе з дурнымі мазгамі жывут і німа на гэто ніякае рады. Ну, трэбо сказаці, што многіе і нашы людзі то нармальны. От хоць бы вазьмі нашых бандарскіх: Міша Яначкоў — пракуратар. Калі толькі прыедзе ў Бандары, то заўшэ па-нашаму говорыт, і Ваня Паўлоў, і Васька Андрэяў. Ну і ты. Я ніколі ні чула, каб хтось з вас па-польску тут гаварыў. Ну, але гэта то яшчэ нічого, але от тое, што твая жонка Аліна, палячка аж з-пад Кельцаў навучылася па-нашаму і ніколі ні за мною, ні з бацькам ні гаворыт па-польску, то гэто ўжэ праўдзівы чудзеса. Такіх другіх то хібо нідзе німа. Ну як жэ гэто так, каб палячка па-кацапску гаварыла!

Ну, а што касаецца родзіны, то я табе яшчэ штось прыпомню. Чы ты помніш як перад самаю вайною саветаў з немцамі Сталін пачаў вывозіць тых нашых людзей, каторых саветы кулакамі называлі. Чом гэто такое безгалоўе на тых саветоў прышло то я ніяк сваім дурным розумом ні пайму. То ж як прышлі тые саветы, то і ўсіх пачалі лечыць бесплатно і пачалі вучыці ўсіх бесплатно і ведомо што людзі цешылісе з гэтаго ўсяго. Аж тут раптом і узялі здурэлі і давай сілаю ў калхозы заганяці. Праўда, ні успелі ўсюды гэтых калхозаў зрабіці, але ў Новай Волі зрабілі. І так там нажондзілі, што ў грудню бульбу капалі. Ну, а другая, яшчэ горша дурната ім у голаў прышла і пачалі гэтых нібыто кулакоў у Сібір вывозіці. То ніхай сабе вязлі б розных лодыроў і прайдзісветаў, але не, пачалі вывозіці найпрацавітшых мужыкоў. От і схапілі маю родну сястру з Семяноўкі з цэлаю сям'ёю. То ж іх праз Бандары везлі і затрымалісе каля Наземкавых. Я ж туды з табою бегала. Якраз грузавікі там задзержаліся. Божэ мой, Божэ. Гляджу я на тую бедну сястру, а ў яе слёзы як гарох з ачэй коцяцца і ніяк ні можэ слова сказаці, бо слёзы за горло душат. Аж урэшці яна сказала да мяне: „Сестронко, я не знаю куды нас везут але напэўно павезут далеко. І мае сэрцо чуе, што я ужэ на родзіну ні вернусе. І ні пахавают мяне там, дзе лежат наш тато і мама. Пахавают мяне далеко ад нашае стараны". Ты знаеш, так мяне за горло сціснуло, што і я ні магла слова сказаці. Нават ні успела я ее пацешыці, бо краснаармеец нас адагнаў і назваў мяне кулачкаю і сказаў, што пабачусе з сястрою ў Сібіры. Гэто значыласе, што і нас вывезут. Але ні успелі, бо за якіе пару дзён ужэ немцы да нас прышлі.

Ну, але я яшчэ хачу сказаці пра сваю сястру. Добрэ чуло яе сэрцо. Завалаклі іх аж у Сібір. Жылі яны там у холадзі і голадзі. Дзеці выжылі і вернулісе, а сестра бедняга памерла і там яе пахавалі. А як пахавалі? Без труны. Завернулі цело ў парвану радзюжку і закапалі ў яму. От і ўсё!

Гэто веліке нішчасце, калі чалавека хавают ні ў роднай зямлі. Найлепш, калі чалавек памрэ там, дзе нарадзіўсе. Гэто найбольшэ шчасце. Я то ужэ ўсё маю падгатоўлена і адзене, і чаравікі, і жду смерці вельмі спакойно. Тут жылі і памерлі мае дзеды і бацькі і я тут памру на Родзіне і больш мне нічого ні трэбо. Дзеці пагадавала, нікому нічого ні вінавата, цэлэ жыце моцно працавала, а от цяпер то ужэ сілы ні маю, ногі вельмі слабые, значыт, пара мне ужэ на той свет. Пахаваеце мяне ў роднай зямлі і больш мне нічого ні трэбо.

Ты знаеш, што я вельмі цешусе, што нарадзілася ў нашай старане. Можэ дзесь там на свеці і е землі харошчы, чым наша зямля, але для мяне то гэта наша найхарошча, а найхарошча тым, што яна родна зямля.

Ой, наплела я тут табе пра гэту нашу родзіну. Ну, але ж гаварыла тое, што ў грудзях чула. От і ўсё".

**Алесь Барскі**

# 5-я нядзеля пасля Вялікадня

Пятая нядзеля пасля Вялікадня называецца „Нядзеляй аб самаранцы". У гэты дзень чытаецца абшырны фрагмент з 4-га раздзела Евангелля паводле Іаана. У ім гаворыцца пра гутарку Хрыста з самаранкай ля калодзежа патрыярха Якуба. Не зважаючы на ўсе прадузятасці ў адносінах яўрэяў да самаран, ні на факт, што не выпадала Яму размаўляць з жанчынай — Ісус аб'явіўся ёй як прарок і Збаўца свету. Ён не толькі адкрыў тайны ейнага асабістага жыцця, але і складаныя суадносіны паміж двума народамі. Самаране прызнавалі толькі пяць Майсеевых кніг Святога Пісання, не прызнавалі аднак Іерусалімскага храма за свой і выбудавалі асобны на гары Гарызім. Хаця прытрымоўваліся шматлікіх элементаў паганства, сваю рэлігію самаране не лічылі горшай за яўрэйскую.

Хрыстос даказаў, што Сам ён далёкі ад стэрэатыпаў і прадузятасцей у адносінах да каго-небудзь. „Надыдзе час, — сказаў Ісус самаранцы, — калі не на гары гэтай і не ў Іерусаліме будзеце пакланяцца Айцу... прыйдзе час, ды ён ужо прыйшоў, калі праўдзівыя паклоннікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэткіх паклоннікаў шукае сабе Айцец" (Іаан. 4, 21-23).

Такім чынам простай, самаранскай жанчыне была адкрыта глыбокая праўда, адрасаваная да ўсіх вернікаў усіх часоў. У гутарцы з фарысеем Нікадзімам было таксама сказана, што „калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Царства Божае" (Іаан. 3, 5). Усюды там, дзе душа рвецца да Бога, дзейнічае Дух Святы, які прытым „дыхае дзе хоча" (Іаан. 3, 8). Аднолькава памыляліся тыя, што маліліся на гары Гарызім і тыя, што ў Іерусаліме. Памыляюцца таксама тыя, якія адзіны і выключны цэнтр хрысціянства бачаць у Рыме, у Канстанцінопалі або ў Маскве. Людзі могуць гэтак думаць, аднак Хрыстос выразна сказаў, што сапраўднае пакланенне „ў духу і праўдзе" і што няма нейкага спецыяльнага месца на лучнасць з Богам, які жыве перш за ўсё ў сэрцы.

Рэлігія не павінна зводзіцца да вонкавых формаў і цырымоній. Хрысціянскія канфесіі разбудавалі перш за ўсё другараднае: вонкавую абалонку абрадаў і традыцый, губляючы прытым першараднае: унутраную дасканаласць і праўдзівы дух Евангелля. У выніку атрымаліся дысцыплінаваныя, вонкавыя формы: цудоўныя храмы, пышныя багаслужбы і ўпарадкаваныя рытуалы. Няма аднак галоўнага: любві і адзінства, якія характарызавалі першых хрысціян. Ніхто лепш за фарысеяў не выконваў абрадаў і рытуалаў, аднак Хрыстос асудзіў іх, даказваючы, што вартасць іх не большая, чым вопратка чалавека ў параўнанні з самім чалавекам. Мы можам быць вельмі прывязаныя да традыцыі сваёй Царквы — да манументальных кафедраў, прыгожых спеваў, ікон, аблачэнняў, цырымоній, аднак неабходна прызнаць, што гэта толькі сродкі, а не мэта. Людзі могуць сабе выдумоўваць тысячы дадатковых канонаў і правілаў, могуць зайздросна ахоўваць свае шэрагі, гаворачы, што толькі ў іх збаўленне, аднак Хрыстос сказаў проста: „Калі хто верыць і ахрысціцца — будзе збаўлены".

Ад найдаўнейшых часоў кожная лакальная Царква мела свае адметнасці і нікому гэта не перашкаджала. Аднак з часам паявіліся расколы і секты, а іерархі давялі сваім уладалюбствам і спаборніцтвам да падзелу на католікаў і праваслаўных. Рэлігійныя войны, варожасць і пракляцці ўвесь час выклікаліся зямнымі мэтамі іерархаў. Таму хрысціян слушна дакаралі кажучы: „Вы верыце ў Бога любові, усім накідаеце сваю веру, а самі не можаце дамовіцца паміж сабою".

Евангелле пра самаранку звяртае таксама ўвагу на універсальнасць збаўлення, якое не абмяжоўваецца ні расай, ні народам, ні адной канфесіяй. Лаяльнасць у адносінах да свайго народа схіляла апосталаў да варожасці ў адносінах да самаран. Хрыстос паказаў ім, што Богу можа быць бліжэйшы той, якім пагарджае іншы чалавек. Мы проста не павінны выручаць Бога ў ацэнцы людзей. Трымаючыся свайго, не ўзвышацца над іншых, бо ў вачах Божых усе Яго дзеці. Адкідаючы фальшывы царкоўны патрыятызм, які найчасцей проста з'яўляецца вынікам выхавання ў дадзенай традыцыі, варта памятаць трапную формулу Блажэннага Аўгустына: „У галоўным — еднасць, у спрэчным — свабода, а ва ўсім — любоў".

**а. Канстанцін Бандарук**




(ana): Jubileusz Wiktora Szweda. *Kurier Poranny* 20.03.1995 r., nr 66 (1359), s. 6.

BOĆKOWSKI Daniel: Rozkaz nr 00308. *Dzieje Najnowsze* 1994, nr 3, s. 133-140. (O organizowaniu operacyjnych trójek w UNKWD zachodnich obłasti Ukrainy i Białorusi z dn. 7.03.1940 r.).

BONDARCZUK Tatiana: Variete po białorusku. Z właścicielką rewii "Theatre - Variety Serge" z Mińska na Białorusi... rozm. Wiesława Stawińska. *Kurier Poranny* 8.02.1995 r., nr 32 (1325), s. 4, foto.

Chorużу Wiesław: Białoruski drugi obieg w Polsce 1981 — 1990. Białystok 1994; Rec. ZGIET Wincenty, *Kurier Podlaski* 21-23.04.1995 r., nr 92 (1395), s. 11.

DZWONKOWSKI Roman: Język a świadomość narodowa na przykładzie polskich mniejszości narodowych w krajach bałtyckich, na Białorusi i na Ukrainie. *Roczniki Nauk Społecznych* 1993 r., z. 1, s. 183-196. Sum.

The five Biblical scrolls in a sixteenthcentury Jewish translation into Belorussian (Vilnius Codex 262). Jerusalem 1992; Rec. WITKOWSKI Wiesław, *Rocznik Slawistyczny* 1994, cz. 1, s. 105-108.

GAŁECKI Zygmunt: Ekspresywne dźwięczne "h" w polskich gwarach na Podlasiu. *Roczniki Humanistyczne* 1991/1992, z. 6, s. 95-105.

GOMÓŁKA Krystyna: Białorusini w II Rzeczpospolitej. Zeszyty Naukowe Politechniki Gdańskiej Ekonomia 1992, nr 31; Rec. MILEWSKI Jerzy, *Dzieje Najnowsze* 1994, nr 3, s. 159-162.

Hajduk Mikołaj: Unia Brzeska. Białystok 1995; Rec. MIRANOVIČ Jaúhen, *Niva* 16.04.1995, nr 16 (2031), s. 4; BOŁTRYK Michał, *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 5 (119), s. 39.

JAGIEŁŁO Michał: Białoruskie poszukiwania Białorusi, cz. II, *Przegląd Powszechny* 1994, nr 4, s. 81-99.

JANOWICZ Sokrat: Styki stale iskrzą. Rozm. Leszek Żuliński. *Wiadomości Kulturalne* 26.02.1995 r., nr 9 (40) dod. s. I — II, foto; Rep. (ota): Wiadomości kulturalne pod prawosławnymi krzyżami, *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 4 (118), s. 12.

MARTYNIAK Henryk: Miłka wraca do sowchozu. (Sytuacja polityczno-gospodarcza na Białorusi). *Polityka* 1995, nr 2, s. 11.

PISKOZUB Andrzej: Białoruś jako podstawowy obszar zaplecza portowego Królewca—Kaliningradu. *Zeszyty Naukowe Akademii Ekonomicznej,* Katowice 1994, nr 132, s. 83-104. Sum.

SIELICKI Franciszek: Religia w folklorze białoruskim. *Zeszyty Naukowe KUL* 1991, nr 1/1, s. 29-45. Sum.

SKOCZYLAS Joanna: Pustelnik z wyboru. Leon Tarasewicz, lider pokolenia lat 80., zagrzebał się w małej białoruskiej wsi. *Wiadomości Kulturalne* 26.02.1995 r., nr 9 (40), dod. s. V.

SZEFFEL Agnieszka: Czy doskonała może być tylko nieobecność? *Topos* 1994, nr 7, s. 49-50.

(Wystawa "Nowa fotografia białoruska" w Sopocie).

TEBINKA Jacek: Proponowana zmiana polskiej granicy wschodniej w 1952 r., *Dzieje Najnowsze* 1994, nr 3, s. 71-75.

ZANIEWSKA TERESA: Literatura obojga narodów. Białostockie środowisko literackie ma niewielką tradycję, za to bogatą i wyjątkową strukturę. *Wiadomości Kulturalne* 26.02.1995 r., nr 9 (40), dod. s. I.

**Р. С.**

Адгалоскі

## Кар'еры

„Кар'еры" Васіля Сакоўскага, якія калісь друкаваліся ў „Ніве", прачытаў я з вялікай цікавасцю і без перадышкі. Аўтар праўдзіва адлюстраваў думку нашага чалавека — беларуса. Царскія ўлады добра разгадалі яе моцныя і слабыя бакі: наш чалавек дзеля кар'еры на ўсё здольны. Каб утрымацца на кар'ернай лесвіцы, можа ён зрабіць так добры ўчынак, як і нейкае свінства ці подласць. Нашы людзі, у гонар нам, працавітыя, таленавітыя і маюць залатыя рукі, бяда толькі з іх душою і патрыятызмам. Чытаючы нарысы В. Сакоўскага даведваемся, што пры „крывавым" цары Мікалаю II некаторыя людзі дабіліся высокіх ваенных званняў — палкоўнікаў і нават суродзічы называлі іх высокаблагароддзем і яшчэ ганарыліся гэтым. Часам гэтыя „высокаблагародззі" не пазнавалі і цураліся сваіх, знішчаных старасцю і працай, бацькоў. Прыкладам гэтага нейкі Ігнат Нікалаюк, які пасаромеўся запасціць за вясельны стол свайго спрацаванага бацьку. Кар'еры нашых слаўных палкоўнікаў абарвала бальшавіцкая рэвалюцыя ў 1917 годзе. Большасць з іх была пазбаўлена і чыну, і звання, а часта і жыцця. А тое, што многія з нас, дзеля кар'еры, не пазнаюць сваіх блізкіх — было, ёсць і, пэўна, будзе. Мо хто гэтаму і запярэчыць.

У маёй роднай вёсцы Дубічы-Царкоўныя пры цары некаторыя больш здольныя людзі таксама паканчалі добрыя школы. Хаця ніводзін з іх не дабіўся вайсковага чыну палкоўніка, бо абралі яны другі напрамак: сталі ці то настаўнікамі, ці дыяканамі. Мой родны дзед, Лярка, закончыў двухкласнае народнае вучылішча і, калі быў на вайне ў 1914 годзе, толькі ён адзін мог пісаць лісты дамоў і сабе, і другім. Іншыя салдаты таксама ўмелі пісаць, але пад выбухамі снарадаў і свістам куляў іх нервы адмаўлялі карыстання адукацыяй. Мой дзед быў чалавекам вельмі адважным і не зважаў на тое, што дзеялася навокал; атрымаў нават Георгіеўскі крыж. Загінуў у крэпасці Дэмблін у 1915 годзе. Родны брат майго дзеда — Трафім Панфілюк быў вельмі здольны і скончыў гімназію на выдатна. Вучыўся ён у гімназіі ў Омску на Сібіры, калі быў у бежанстве. Беларускую і польскую мовы на выдатна вывучыў ужо пры санацыі — у турме, дзе сядзеў за палітыку. Ён мяне таксама яшчэ вучыў — ужо пры народнай уладзе. Другі брат майго дзеда — Бенядыкт падчас першай сусветнай вайны „скорапаспешна" закончыў лекарскія курсы і пасля, пры санацыі, лячыў нашых людзей. Хаця хадзіў у лапцях, добрым быў лекарам; многіх людзей выратаваў ад пэўнай смерці. Усе яны, цэлы род Панфілюкоў, да кар'еры ніколі не пхаліся і яна была ім цалкам чужая: заўсёды вялі гутарку па-просту, гэта значыць па-беларуску. А быў у нас таксама Павел Дам'яновіч, які пры цары здабыў сярэднюю адукацыю і многа гадоў настаўнічаў то тут, то там — ён з усімі заўсёды гутарыў чыста па-расейску. Нашай мовы не прызнаваў, хаця чалавек з яго быў добры. Быў яшчэ і Раман Старасельнік, які пры цары закончыў семінарыю і таксама настаўнічаў, затым быў дыяканам, а пасля вайны зноў стаў настаўнікам. Быў ён вялікім любіцелем кніг, якія вельмі прыгожа пераплятаў. Ён не цураўся роднай мовы — гаварыў і так, і так. Усе гэтыя высокаадукаваныя людзі не маглі настаўнічаць пры санацыі — з размахам праводзілася паланізацыя з пагардай для нашых людзей.

**Мікалай Панфілюк**

## Было ды прайшло

Крысціна была дачкой багатага ўласніка трохгектарнага саду. Калісь такія сады як у ейнага бацькі давалі добры прыбытак.

Дзеўка з Крысі была прыгожая, хлопцы ліплі да яе, як мухі да мёду. Дзяўчына яшчэ не збіралася выходзіць замуж. Добра вучылася ў школе і рашыла падацца ва універсітэт ці медыцынскую акадэмію. Стала лекарам у мясцовай амбулаторыі. Пасля працы ішла дапамагаць бацькам, бо работы было шмат. Аматараў на маладую лекарку было нямала, але і цяпер, у „старых дзеўках", не збіралася ісці пад вянец.

Урэшце ў ваколіцы паявіўся Тамаш. Завяршыў адукацыю ў вышэйшай сельскагаспадарчай школе, стаў на працу ў мясцовы ПУМе загадчыкам. Маладыя сустрэліся на танцах, спадабаліся адно аднаму. „Хадзілі" ўсяго квартал, згулялі вяселле (сваякі пілі амаль тыдзень). Вядома — было за што гуляць! Маладая — адзіная дачка ў такіх багацеяў, а і малады — з заможнай сям'і.

Жыць рашылі тут, бо і праца, і бацькі заўсёды блізка. Пайшлі дзеці. Двума хлопчыкамі і дзяўчынкай займаліся Крысіны бацькі, а яна пайшла працаваць. Ад Тамашавых бацькоў часта даставаліся грошы. Жылося ім вельмі добра. Дажылі б так і да „залатога вяселля", каб не...

Калі Тамашовай дачцэ споўнілася сем гадоў, паявілася яна. Маладзенькая Бажэнка — бухгалтарка ў ПУМе. Тамаш закахаўся як маладзён. Дзяўчыне таксама спадабаўся старэйшы на дваццаць гадоў загадчык. Сустракаліся не толькі на працы. Жонка нічога не заўважыла — Тамаш ранейшаму быў прыкладным мужам і бацькам. Калі Бажэна зацяжарыла, Тамаш рашыў кінуць сям'ю.

Вярнуўшыся з працы, папрасіў у Крысі хвіліну сур'ёзнай размовы.

— А чаму ж сур'ёзнай? — усміхнулася жонка.

— Хачу развод.

— Чаму? Ці нам кепска разам?

— Бачыш, было каханне ў нас, і прайшло яно. Я кахаю іншую. Яна народзіць маё дзіця.

— А нашыя? Артур і Арыель цяпер у тэхнікуме, вялікія ужо. Еля ў першым класе... Што мы ёй скажам?

— Я скажу ёй праўду.

Калі дзяўчынка вярнулася ад сяброўкі, бацька ўзяў яе на калені. Растлумачыў, чаму ён яе пакідае. Дачушку будзе бачыць рэдка, бо будзе жыць у горадзе.

— Не плач, не трэба. Ты ўжо вялікая дзяўчынка. Зразумей, так ёсць у жыцці: людзі сходзяцца і разыходзяцца, — суха сказаў на канец, запакаваў два чамаданы і пайшоў.

Маці тыдзень хадзіла як аслупянелая, але пасля падумала: „Калі мы для яго — абы-што, то чаго ж нам так пакутаваць?!"

Сыны, пачуўшы навіну, сказалі маці, што адракаюцца ад бацькі. Калі сустракаліся з ім выпадкова, не віталіся. Дачушка пакрысе супакойвалася.

Крыся з дзецьмі дапамагала бацькам у садзе, і хоць цяпер ужо не так выгадна вырошчваць фрукты, усё ж можна атрымаць за іх грош. Тамаш аліменты плаціць рэгулярна. Некалькі разоў хацеў паразмаўляць з сям'ёй, але ніхто не хацеў яму сказаць нават слова.

Разводу не маюць. Бажэнін сын, Тадэўш, пакуль што не ведае, што ў яго ёсць яшчэ два браты і сястрычка.

**Аўрора**

## Колішнія чараўніцы

Мая пакойная бабуля, будучы яшчэ ў бежанстве, чула наступны расказ ад старой сібірачкі.

У адной вёсцы жыў вельмі прыгожы хлапец. Закахаўся ў дзяўчыну і ажаніўся з ёю, не ведаючы, што яна — чараўніца. Пасля шлюбу жонка сказала яму, каб выконваў усе яе загады, бо інакш зменіць яго ў нейкую жывёліну. Муж засмяяўся, і чараўніца абярнула яго ў ваўка. Цяпер ведаў, чым можа скончыцца бунт. Стараўся ва ўсім дагаджаць жонцы-чараўніцы, ведаючы, што нікуды ад яе не ўцячэ і не схаваецца. Але і так жонка час-часом перамяняла яго то ў сабаку, то ў авечку, то ў вала...

Расказваў потым сваім знаёмым, які нораў у звяроў, як яны адно з адным жывуць. Вось ваўкі кідаюцца на людзей і жывёл толькі тады, калі галодныя. Калі ў ватазе ёсць старэча, слабы, бяззубы, прынясуць яму мяккае мяса. Сабакі ў групах не жывуць, і ў такім выпадку жывецца ім кепска, бо браты не памогуць, а гаспадар не патрабуе ветэрана, які ўжо не ў сіле пільнаваць дабытак, і не будзе яго карміць да смерці. Не раз найлепшы стражнік гаспадаркі не мае нават сваё будкі і міскі, жыве на прывязі. А авечкі і валы таксама шкадуюць старых і спачуваюць слабейшым у сваім статку. І расказваў яшчэ муж чараўніцы, як цяжка валу зімой...

Добра, што няма цяпер такіх чараўніц, што ўсё зрабіць могуць з чалавекам. Добра, калі чалавек сам разумее братоў сваіх меншых.

**Аўрора**

## У гушчы спраў

Прадстаўнік „Нівы" сустрэўся з солтысамі са Старога Ляўкова, Ахрымоў і Гушчэвіны. Пагутарылі пра жыццёбыццё вяскоўцаў. Ніжэй запіс у скарачэнні, аб найважнейшым.

**Ян Русіновіч** (Старое Ляўкова): — Солтысам я ад 14 мая 1991 года. За гэты час у вёсцы пабудавалі водаправод, паклалі асфальт на паўтаракіламетровым адрэзку рухлівай дарогі са Старога Ляўкова ў напрамку Лешукоў, якраз да мяжы майго салэцтва.

У важкіх справах раюся з салэцкай радай, якую складаюць: Рыгор Пякарскі, Сяргей Бірыцкі і Канстанцін Бандарук. Намераны мы адрамантаваць вясковы тратуар, пакласці прапускныя трубы зараз за вёскай, дзе ў равах збіраецца многа вады. Мяркуем, што гэты намер неўзабаве здзейснім.

**Альжбета Бачынская** (нававыбраная солтыс Ахрымоў): — Мне дапамагаюць Ян Бачынскі з Ахрымоў і Канстанцін Каролька з Капітаншчыны. У нас пабудавалі ўжо водаправод і далей „павядуць" яго ў Капітаншчыну. Неабходна было б узяцца за рамонт дарогі з Ахрымоў у суседнюю Капітаншчыну, але... лепш будзе калі ўжо пабудуюць водаправодную лінію. Тады і грунтоўна адрамантуем. Цяпер пойдзе грэйдэр і зліквідуе ўсе ўхабіны. Гмінныя ўлады не адмовяць нам у дапамозе.

У пачатку гэтага года паставілі тэлефон на хутары Бачынскае. Таму зараз ахрымаўцы і жыхары хутара пачалі дамагаць: „Дайце больш тэлефонаў!"

**Анатоль Раманчук** (Гушчэвіна): — Я толькі што пачынаю ўваходзіць у ролю вясковага пасла. У салэцтве дзве вёскі: Гушчэвіна і Грушкі. Гушчэвінцы маюць асфальтаваную вуліцу і водаправод. Ёсць у нас святліца. Сёлета хочам пабудаваць дзве даязныя дарогі з вёскі на палі. У сяле многа трактароў, а ў войта папросім землечарпалку і грэйдэр. Ведаем, што наш войт нам не адмовіць.

Жыхары Грушак дамагаюцца вулічнага асвятлення. Вёсачка невялікая — усяго дзесяць дамоў, пад самім лесам. Зайздросцяць яны нам і іншае выгады — вады з крана. Лінію можна было б працягнуць з надлясніцтва. Жыхароў малавата (вёска цікавая: тут ва ўсіх прозвішча Скепка і толькі адзін Паскробка) і таму кошт інвестыцыі для кожнага з іх быў бы даволі вялікі.

*Гутарку запісаў*

**Янка Целушэцкі**

## Легенды нашай зямлі

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Зачкі (Заёнчкі) стаяла старая жаралістая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахно, а вершаліна цалкам змуршэла і абвалілася, але знізу яна кожную вясну кучаравілася густою лістотай.

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. Бачыць адзін военачальнік, што войска яго пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады абкаваную жалезам скрыню з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яе паблізу гэтага дрэва. Частка яго салдат загінула ў гэтай бітве, і косці іх ляжаць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на старых могілках, што непадалёку ракі Нарвы. Другая частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюдою людзі, і расла сабе ліпа на ўзгорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны тут скарб. Але ж той военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, перад самай смерцю напісаў запавет. Згадаў у ім пра тую скрыню золата і дадаў, што закапаў яе ў тым месцы, куды дасягае цень ліпы.

Прагны дармовага багацця спадчыннікі прымчаліся сюды і пачалі шукаць той скарб. Была якраз раніца, і цень разгалістага дрэва быў даўжэзны. Кінуліся яны капаць. Валяць яны ямы ў рост чалавека, а там няма нічога. Тым часам сонца паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей пабег. Капалі яны так, капалі ранiцай, апоўдні і падвечар, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, а мо і болей. Аніяк не маглі натрапіць. І толькі тады ім стала вядома, што скарбу не знойдуць, бо ў завяшчанні не было сказана, у якую пару года і дня той военачальнік закопваў тую скрыню з золатам. Не было іншага выбару, як толькі адрачыся ад пошукаў.

Зараз цень сваім абсягам не спакушае ўжо людзей шукаць той скарб. Ліпа ад старасці зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе расла.

* * *

А было гэта так. З Нарвы, з праваслаўнага манастыра, шляхам у Бельск і ў Драгічын ішлі трое манахаў. Спыніліся на ўзгорку сярод лесу, расклалі агонь. І так павялося з таго часу, што потым заўсёды спыняліся на тым самым месцы. Пасля гэтыя манахі пабудавалі сабе тын — загарадзь з бярвенняў, каб абараняла іх ад драпежных звяроў.

Памалу тын павялічыўся, побач пасяліліся мужыкі, пачалі карчаваць лес і займацца земляробствам.

Жыхароў недалёка тыну пачалі называць тыневічанамі... Адсюль і назва вёскі. Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы — Вялікія і Малыя.

* * *

Адкуль узялася назва сяла Скупава? Стары дзядуля Раманчук так расказаў субяседніку:

— Даўным-даўно тут быў двор. Калі тут лес быў вырубаны пад поле, таго ніхто не памятае. Двор стаяў на пагорку, пры дарозе ў Сухадолы.

Пад узгоркам была крыніца, далей цякла рачулка, быў там рыбны стаў. Двор згарэў. Тады зямлю распрадалі людзям. Магчыма таму наша сяло і назвалі Скупавам, бо зямлю скуплялі людзі з розных старон...

Чуў я ад старых людзей, што свайго часу руская царыца Кацярына падорыла Скупава свайму палкаводцу Сувораву. Спярша Скупава было адно, а пасля пажару раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

*Запісаў*

**Янка Целушэцкі**

**З былога**

## Я лепей пільнаваў!

У адной вёсцы жыў чалавек, які працаваць не вельмі любіў, а меў схільнасць да крадзяжу. Клаў на галаву каску, якую знайшоў пасля вайны і хадзіў на „службу” з сабакам або сукай, залежна ад таго, які вартаўнік пільнаваў гаспадарку. Людзі пабойваліся; казалі, што мае зброю і шмат патронаў.

Краў ланцугі і іншае гаспадарскае драбноцце, а летам выцягаў людзям са студняў банкі з малаком (калісьці па вёсках не было злеўняў, бабы збіралі смятану, білі масла, з кіслага малака рабілі сыры, вазілі гэта на кірмаш). Новыя банкі вазіў прадаваць на кірмашы, старыя апаражняў і пакідаў на двары.

Аднойчы ў аднаго гаспадара ўкраў тры новыя ланцугі. Пакрыўджаны рашыў яго правучыць. Сустрэў злодзея на вуліцы і кажа:

— Я ведаю, што гэта ты ўкраў мае ланцугі. Аддавай мне іх, а не — пайду ў міліцыю. Не буду я цябе баяцца, як іншыя!

— Ну, добра, — згадзіўся злодзей. — Ланцугі твае аддам, але давай сустрэнемся вечарам ля твайго жыта. Прынясі мне... шакалад і дзве пачкі шакаладнага піrожнага.

Гаспадар згадзіўся, але надумаў добра адлупцаваць зладзюгу. Узяў з сабой бізун і чакае. Сцямнела, а злодзей не ідзе. Гаспадар прылёг на мяжы дый заснуў. Раніцай знайшла яго жонка. Ланцугі ляжалі на мяжы, а ў гаспадаровых кішэнях не было шакаладу і піrожнага, прапаў і бізун.

Гаспадар злосны вярнуўся дахаты.

— Думаў перахітрыць мяне, ведаю, — засмяяўся пры сустрэчы злодзей. — Думаў прыпільнаваць і даць мне ў скуру, але я цябе лепш пільнаваў.

Гаспадар толькі заскрыгатаў зубамі. А злодзей яшчэ доўга хадзіў бяскарна, хадзіў па дварах, аж... ягоныя сыны пачалі хадзіць на танцы.

**Аўрора**

## ПРЫРОДА ПАД АХОВАЙ

1 красавіка г.г. уступіў у сілу новы закон аб ахове звярыны. На гэты дзень чакалі ўсе, каму неабыякавы лёс фауны. Новы закон пераводзіць многіх звяроў са спіска годных да лоўлі ў спісак ахоўваемых. Пад апеку ўзяты многія звяры, між іншым рысь і воўк, а таксама меншыя млекакормячыя, як куніца і тхор. Пад поўную ахову пераведзены пеўчыя птушкі, у тым ліку глушцы і цецерукі; лік апошніх на працягу 10 гадоў паменшыўся ў 10 разоў! Новы закон мяняе статус водна-балотных птушак: адны пераводзяцца пад ахову, на другія дазваляецца паляваць. Вельмі важнай з'яўляецца змена, а дакладней абмежаванне перыяду лоўлі водна-балотных птушак, што дасць ім больш часу на хоў маладняку. З беспазваночных звяроў новы закон абмяжоўвае лоўлю рэдкіх відаў матылькоў і слімакоў. Апошнія можна будзе лавіць у маі і да таго такія, якіх дыяметр ракавіны не меншы за 3 см. Чарговым каштоўным нававядзеннем з'яўляецца ахова тых гатункаў, якія характарызуюцца асаблівасцямі расплоду або месца пражывання, напрыклад чарапахі. Для гэтай катэгорыі звяроў прадугледжана стварэнне ахоўных зонаў у месцах асабліва важных для іх выжывання. Новы закон бярэ пад ахову таксама шэраг дрэў і кустоў, багны, тарфянікі. На думку многіх прыродазнаўцаў новы закон уваходзіць у сілу за позна ў дачыненні да многіх звяроў, аднак усё ж такі павінен ён аказаць важную дапамогу ў іх намаганнях за выжыванне пагрожаных гатункаў нашага прыроднага багацця.

*Аўтар рыхтуе чарговыя прапагандысцкія экалагічныя матэрыялы.*

**Андрэй Гаўрылюк**

ПАРНАС
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

**Дзяўчына**

Дзяўчына шчаслівая
Калі не лянівая.
Вядзі сябе як трэба,
Не цурайся бацькоўскага хлеба,
Сала, баршчу і кашы,
Як дзяды і бабулі нашы,
Што скромна працавалі
І дабро нажывалі.
Не будзь ганарыстай,
А будзь залацістай,
Як кветка жывая,
Заўсёды маладая.
Будзь ветлівай і скромнай,
У кампаніі прытомнай —
Такіх любяць, паважаюць,
Бо дакладна знаюць —
Будзеш добрай гаспадыняй,
Залатой красавацца дыняй.
А дыня ў агародзе
Заўсёды ў пашане і модзе.
З п'яніцамі не займайся
І гонару трымайся,
Беражы сваё дзявоцтва — скарб
Што ад золата больш варт.
Калі трэба — будзь адважнай
І рашучай, важнай.
Будзь у народзе,
Як дыня ў агародзе.
Замуж хутка не ляці —
Вучобе розум прысвяці.
А калі нават і сялянка,
Ты сёння як дваранка.
Твая прыгажосць не калечыць
А душу нашу лечыць.
Дзяўчына! Твая прыгажосць
Уводзіць некаторых у злосць,
У паклёпы і зайздрасць —
Пакаўзнешся — іхняя радасць.
Будзь уважнай на кожным шагу —
Раджу, гавару, як магу.

**Мікалай Панфілюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Выбралася я ў госці да кумы, вельмі прыгожа апранутая, але іду толькі ў адным прыгожым чорным пантофлі. Вярнулася, шукала, але не знайшла другога.

**Ганна**

Снілася мне, што ў мае ўнучкі, у якой у сапраўднасці вельмі буйныя, прыгожыя валасы, яны ламаюцца, развальваюцца, крышацца, быццам шкляная вата.

**Зіновій**

Ганна, нешта мела быць для цябе вельмі добрае і цікавае, можа нейкае падарожжа. Але менавіта з падарожжам нешта не выйдзе. Справа ў тым, што ты згубіла адзін туфель, значыцца, будзе нейкая замінка ў падарожжы.

Зіновій! Сумна мне надта канстатаваць гэты факт, але твой сон праўдзівейшае ндобрае для тваёй унучкі. Калі б у сне яны былі вельмі прыгожыя, буйныя ці доўгія, абазначала б гэта для яе нешта добрае: ці прыбытак, ці так які поспех. Але валасы ў тваёй дзяўчынкі крышыліся, ламаліся, развальваліся і абазначае гэта, што існуе для яе нейкая рэальная пагроза. Можа быць нават страта здароўя.

**Астрон**

## ВІРАВАНКА

1. дзяржава на ўсходзе Азіі, 2. соль азотнай кіслаты, 3. горад на Доне, 4. дрэва сямейства вярбовых, 5. знак, пячатка, 6. карабель Ноя, 7. адзінка будовы жывога арганізма, 8. вадаспад у Фінляндыі, 9. грашовая адзінка ў Манголіі, 10. „ліст” урача ў аптэку, 11. самалюбства.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 14 н-ра:**

**Гарызантальна** хром, немач, апатыт, азот, груда, умалот, Арканзас, струг, каўказка, саланчак, раджа, Аўгустаў, Эліста, дрэва, штык, асвета, праца, квас.

**Вертыкальна:** нефрыт, Ландау, разгадка, матуз, Тарас, Сымон (Рыгор), арганаўт, маскарад, СССР, роля, дзед, баба, акустыка, „Аўрора”, жывіца, бляск, Асвея, Гашак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## РЫГОР СЕМЯНЮК

23 красавіка 1995 г. пасля цяжкай хваробы памёр, пражыўшы 97 гадоў, Рыгор Семянюк. Быў грамадскім дзеячам БГКТ, сейбітам беларускай культуры ў 60-х гадах. Атрымаў многа пахвальных лістоў, у тым ліку і пахвальную грамату з нагоды яго 90-гадовага юбілею.

Актыўна дзейнічаў у Саюзе сялянскай узаемадапамогі (ZSCh) у Бельскім раёне. Атрымаў дыплом з нагоды 30-й гадавіны яго заснавання.

Пакінуў па сабе трывалы след у вёсцы Райкі, што ў Бельскай гміне. Па яго ініцыятыве, супольна з Канстанцінам Майсенем, пабудавана грамадскім пачынам вясковая святліца.

Пакінуў дачку, двух сыноў, шасцёра ўнукаў, сямёра праўнукаў. Варта нагадаць, што найстарэйшы яго сын загінуў 4 сакавіка 1945 г. у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі. Ягонае імя і прозвішча віднее на надмагільнай пліце на могільніку савецкіх воінаў у горадзе Квідзын.

На апошняе развітанне з Рыгорам Семенюком прыйшло многа людзей; ледзь памясціліся на памінальным абедзе.

Пасля смерці жонкі Агаты жыў яшчэ 13 гадоў.

**(вс)**

*На здымку: сп. Рыгор Семянюк у кажушку і шапцы-кубанцы сярод самадзейнікаў у 1962 годзе.*

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ЧАКАЛІ МАРЦІНКЕВІЧА...

Некалькі гадоў назад Кіеўская студыя дакументальна-хранікальных фільмаў завяршала выпуск дыяфільма „Дудар беларускі" — пра В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Я як аўтар быў запрошаны ў Кіеў на апошнія ўзгадненні, удакладненні перад запускам дыяфільма ў тыраж.

Мой пастой быў заказаны ў гасцініцы студыі імя А. Даўжэнкі. Калі ж я прыехаў у згаданую гасцініцу, майго прозвішча сярод зарэгістраваных у іхніх спісах нідзе не маглі знайсці. Што такое? Што здарылася? Мае кіеўскія апекуны цвёрда запэўнілі, што гасцініца заказана. Убачыўшы маю збянтэжанасць, рэгістратарка пачала высвятляць: калі заказвалі гасцініцу, хто заказваў, адкуль я прыехаў.

Нарэшце знайшла:

— Ёсць у нас заказ з Мінска. Але вашага прозвішча тут не бачу...

— А хто ж там з Мінска ў вас значыцца?

— Ды вось — нейкі Дунін-Марцінкевіч...

Я не паверыў сваім вушам.

— Хто-хто? — перапытаў.

— Дунін-Марцінкевіч... Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

— Дык гэтага ж чалавека ўжо больш за сто гадоў як на свеце няма...

— Не ведаю — ёсць ці няма, а ў мяне запісана — Марцінкевіч.

Мая студыйная куратарка з Кіева гэты казус растлумачыла так: калі заказвалі гасцініцу, адміністрацыя пацікавілася: якая мэта прыезду госця з Мінска? Ім растлумачылі — прыезд звязаны з дыяфільмам пра Дуніна-Марцінкевіча...

Вось яны і зарэгістравалі гэтае прозвішча... Ну і, вядома, чакалі Марцінкевіча. А прыехаў, вядома, я.

Але ўсё скончылася добра, памяркоўна. Пасмяяліся, перарэгістравалі маё прозвішча, выдалі ключ...

**Уладзімір СОДАЛЬ**
**г. Мінск**

## СЕНТЭНЦЫІ

Калі маўчаць вусны,
гавораць вочы.

*

У блюзнерскім слове
столькі праўды,
колькі ў попеле вады.

*

Згорбленыя плечы —
застылы крык часу.

**Барыс Руско**

- У НАС УСЮДЫ ПРАБЕЛЫ:
У ЭКАНОМІЦЫ, КУЛЬТУРЫ,
ГАСПАДАРЦЫ, АДУКАЦЫІ...

Малюнак А. Каршакевіча

## СУЧАСНЫЯ МАЛІТВЫ

### ПАМАЖЫ, БОЖА!

О Божа!
Пытаю ў цябе я з адчаю:
Хто сёння я і заўтра мяне што чакае?
А быў жа ініцыятыўны, культурны,
Недатыкальны, наменклатурны.
Ніхто не асмельваўся крануць мяне
пальцам,
Цяпер жа трасуся — як у ліхаманцы.
Уймі землятрус з ураганам, з цунамі:
Зямля хадуном пайшла пад нагамі,
Калі не прыпыніцца, будзе так трэсці,
Страсе і самога, і крэсла, і месца.
Куды ж, ну куды мне падзецца,
падацца,
Дзе што мне шукаць і на што
спадзявацца?
Дзе ж знойдзеш, хто дасць табе гэтакі
кус?
О Божа, утаймуй ураган-землятрус!

* * *

Дапамажы, о Божа мой родны,
Купіць і прадаць павыгодней,
Здзейсні маю светлую мару, —
Дай жа паболей тавару з наварам,
Дай мне ў чаропку энергію,
творчасць,
Толькі не штурхай мяне
ў вытворчасць,
Бо там, о Божа, такія парадкі:
Датла, што заробіш, з'ядаюць
падаткі.
Трымай мяне толькі на продажы-
-куплі,
Мой Божа-збавіцель, мой Божа-
-заступнік.

* * *

О Божа!
Ну, што пайшла за мода:
Падавай дэкларацыю даходаў!
Дакажы, растлумач грунтоўна,
Як збудаваў катэдж шыкоўны.
Як лялька, стаіць ён трохпавярховы.
Не надарваў я на ім пупавіны.
Ды лепш забяры мяне ў дамавіну,
Чым дасі забраць забудову,
Мой Божа адзіны, мой Божа талковы.

* * *

О Божа, скажы мне:
Дзе днюеш, начуеш?
Малюся днём-ноччу табе,
Ты — не чуеш.
Прашу ў цябе,
Ты ж спагады не маеш.
Абклалі, як воўка, мяне.
Разуваюць...
І хто мне паможа,
О літасцівы Божа!

**Малітвы падслухаў і запісаў**
**Уладзімір Праўдасуд**

## Смех у санаторыі

Надзея Іванаўна, шматгадовая работніца фабрыкі пыласосаў збіраецца на пенсію. Кіраўнік пытае яе:

— Які падарунак хацелі б вы атрымаць на развітанне?

— Невялікі пыласос.

— Як гэта? Сорак гадоў працавалі і ў частках не вынеслі?

— Ой, вынесла, вынесла. Ды што збяру дома, аказваецца, што гэта кулямёт.

*

Перастройка заглянула ў маскоўскія школы. Дзеці, нагледзеўшыся амерыканскіх фільмаў, рашылі памяняць імёны. І так, Саша стаў Джонам, Ваня — Стывенам а Алёша — Майкам. Вяртаецца Саша дадому, а бацька яму гаворыць:

— Вазьмі, Саша, вядро і прынясі з падвала бульбы.

— Я не Саша, толькі Джон і па бульбу не пайду!

— Ты — Джон?! Я табе зараз дам гэтыя амерыканскія выдумкі! — узлаваўся бацька, ухапіўшы рэмень.

На другі дзень Джон сядзіць маркотны на ўроку.

— Джон, што здарылася? — пытае настаўніца.

— А такі адзін рускі мяне пабіў.

*

Індзейцы злавілі амерыканца і рускага ды прывязалі іх да палі смерці. Адтанцавалі ваенны танец, кінулі тамагаўкам і старэйшына племені пытае амерыканца пра апошняе пажаданне.

— Люльку хачу пакурыць, — адказвае амерыканец.

Атрымаў, пакурыў і спакойна чакае на смерць.

— А якое тваё апошняе пажаданне? — пытае старэйшына рускага.

— Ударыце мяне з цэлай сілы нагою ў задніцу!

Здзіўлены правадыр просьбу выканаў. Тады рускі вокамгненна развязаў рукі, выцягнуў з-пад ватоўкі аўтамат і перастраляў усіх індзейцаў.

— Чаму ты не зрабіў гэтага раней? — пытае амерыканец.

— Мы не агрэсары!

*

— Колькі гадоў атрымаў? — пытаюцца ў лагеры новага вязня.

— Пятнаццаць.

— А за што?

— За нішто.

— Не хлусі; за нішто даюць дзесяць гадоў.

*Даслаў*
*Андрэй Гаўрылюк*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Так усе любяць гаварыць пра кепскіх цесцяў, асабліва пра цешчу, мужаву маці. Быццам цешча ўсюды ўлезе, язык свой усадзіць, дзяцей па-старому выхоўвае, варыць не ўмее. А ці думаюць людзі, што яны гавораць?!

Калі мой сын пасябраваў у сярэдняй школе з дзяўчынкай, людзі мне сказалі: глядзі, яна з дзіцячага дома! Ну, і што з таго, думалася мне. Мела я двух сыноў, а як сын ажэніцца, дык буду мець яшчэ і дачушку. Падару ёй ласку, якой не дазнала яна ад бацькоў, бо загінулі яны, калі ёй было чатыры гадкі, а яна мне адплаціць тым жа.

Сын ажаніўся, і неўзабаве я была ўжо бабуляй цудоўнага ўнучка. Жыццё стала для мяне радасным і поўным надзеі. Я бегла да ўнука, несучы яму ўсе пачуцці, якія назбіраліся ў маёй застылай у апошнія гады душы.

Мы маладым купілі кватэру і далі з большага грошы на мэблю і абсталяванне. Я з замілаваннем дапамагала ім выбіраць у крамах рэчы, патрэбныя для хаты.

Як толькі я ўпраўлялася пасля працы па хаце, ехала да маёй найбольшай радасці — унучка. О не! Я не толькі гуляла з ім. Я мыла яго пялёнкі, прасавала бялізну, варыла.

Аднойчы стаю і прасую дзіцячыя рэчы. Нешта не спадабалася нявестцы. Нешта не так я ёй зрабіла. Мо заблізка прытуліла ўнучка. Як не разыдзецца яна! Выйдзі з гэтага дома, кажа, ты дзейнічаеш мне на нервы! Выйдзі і больш ніколі сюды не прыходзь! Ізноў пашарэла маё жыццё, стала аднастайнае: дзень як штодзень — праца, пакупкі, абед, тэлевізар, уборка.

Так мінуў год. Мы не сустракаліся з сынам і яго сямейкай, і ў маім сэрцы накладалася крыху горычы.

Прыходзіць перад Калядамі сын. Я кажу: „Сорамна неяк перад людзьмі — ці ж нам на свята да чужых лепш пайсці?! Сустрэньмася лепш у нас!" „Добра, — гаворыць ён на другі раз, — толькі яна перапрашаць не будзе!"

Ну, і ўцешылася я. Навошта мне яе перапросіны?! Мне абы разам з сынам і ўнукам быць!

Прыйшлі яны да нас на Каляды. Дзіцяці ўжо тры годзікі мінула. Падышло яно да мяне, стала ціхенька побач і... прытулілася.

— Ты скажы, — не ўстрымалася нявестка, — ён жа наогул да чужых не ідзе!

— То бабуля — чужая? — ізноў ледзь не ўспыхнула я, але ўстрымалася неяк: былі Каляды.

І ад таго часу ізноў не маю я спакою. Няўжо ў ачарсцвелай душы дзіцяці з дзіцячага дома няма месца на нейкае зразуменне сямейных, кроўных пачуццяў, на каханне ў адносінах прынамсі да тых людзей, якія іх кахаюць?!

**Веранiка**

Вераніка! Я ведаю дзесяткі людзей з дзіцячага дома, якія сеюць і ловяць навокал прамені цяпла і радасці, хаця лёс абышоўся з імі вельмі жорстка. Несумненна, твая нявестка — паталагічны тып. Яна хоча, здаецца, мець дзіця толькі і выключна для сябе, не ўсведамляючы, што для цябе яно сёння — таксама адзіны скарб.

Ты дапамагала сыну і нявестцы фінансамі і працай сваіх рук, хацела быць бліжэй да іх і лічыла, што маеш на гэта маральнае права. Нявестцы здавалася, што сфера пачуццяў, звязаных з дзіцём, забаранявана для яе, нягледзячы на ўсю тваю адданасць.

Але я яшчэ думаю, што мо вы неяк усё ж перагаварыліся, мо яблыкам разладу стаў твой сын — яе муж. Мо хацела яму дапячы, бо пасварыліся, а можа хацела, выганяючы цябе са сваёй хаты, прымусіць мужа, каб і ён нешта рабіў...

**Сэрцайка**